



*Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі*

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 24 (4824) 19 чэрвеня 2015 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны з 85-годдзем з дня заснавання ВНУ. Калектывам універсітэта надаецца вялікае значэнне ўдасканаленню методык навучання, заахвочванню творчай працы студэнтаў, паляпшэнню матэрыяльна-тэхнічнай базы, удзелу ў міжнародных праектах.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў з 80-годдзем народнага артыста СССР Юрыя Саломіна. «У Беларусі добра ведаюць і шчыра любяць вашу творчасць, — гаворыцца ў віншаванні. — Вы з'яўляецеся выдатным акцёрам, аўтарам выбітных рэжысёрскіх работ, паспяховым кіраўніком вядомага тэатральнага калектыву Масквы».

✔ Паводле намесніка Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Наталлі Качанавай, мерапрыемствы свята «Купалле» («Александрыя збірае сяброў») сёлета акцэнтаваны на моладзь. Гэта выстаўка «Нашы ідэі табе, Беларусь!», святочная праграма «Маладосць. Традыцыі. Будучыня», купальскае мікс-шоу «Васільковае лета» ды іншыя. Знакавае беларускае свята адбудзецца ў Александрыі ў шосты раз, чакаюцца госці з Балгарыі, Расіі, Украіны.

✔ Сёлета ўпершыню ў межах фестывалю «Славянскі базар у Віцебску» будзе ладзіцца «круглы стол» на тэму «Культура і мастацтва як крыніца развіцця духоўна-маральных каштоўнасцей. Роля СМІ ў фарміраванні агульнай культурнай прасторы славянскіх народаў». Мерапрыемства адбудзецца 10 ліпеня. У ім возьмуць удзел прадстаўнікі кіраўніцтва сферы культуры, вядомыя дзеячы культуры і мастацтва Беларусі, журналісты акрэдытаваных на фестывалі СМІ.

✔ З 16 па 22 чэрвеня ў Беларусі праходзяць Дні культуры В'етнама. Візіт дэлегацыі пачаўся з наведвання мемарыяльнага комплексу «Хатынь» і Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адкрылася фотавыстаўка «Прыгажосць В'етнама». Падчас гала-канцэрта ў Белдзяржфілармоніі выступілі артысты В'етнамскага тэатра оперы і балета ды Дзяржаўнай акадэміі музыкі В'етнама.

✔ У межах адкрыцця Дзелавога і культурнага цэнтра Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі ў Маскве адбылася прэзентацыя ўнікальнага факсімільнага выдання «Кніжная спадчына Францыска Скарыны», адкрылася фотавыстаўка «Нацыянальная бібліятэка Беларусі».



# Жыццё як спакуса

Фота Анжалікі Гракові́ч

Чытайце на стар. 16



*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Фізікі ці лірыкі?

Студэнты сталічных ВНУ — Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі і Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта — сталі пераможцамі Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу, ініцыяванага Саюзам пісьменнікаў Беларусі, які быў прысвечаны 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 70-годдзю Вялікай Перамогі.

Маладыя людзі праявілі выдатныя творчыя здольнасці і разам з тым павагу да нацыянальных традыцый, звычаяў, спадчыны.

Дыпломы і грашовыя прэміі за свае творчыя працы атрымалі студэнты БДЭУ Анастасія Белікава, Анастасія Чарнушэвіч, Анастасія Бітус і Крысціна Рудзянок (факультэт менеджменту), Дар'я Паляўцова, Анастасія Прадзед, Юлія Чыстая, Ксенія Ганусевіч і Яна Дрозд (уліковаэканамічны факультэт), Кацярына Максімчык, Аляксандра Зіятдзінава, Марыя Каранеўская, Ганна Сініцына, Бегенч Аразбердыеў і Дарына Пальчык (факультэт фінансаў і банкаўскай справы), Юлія Душкіна, Марыя Гормаш і Аляксандра Пугачова (факультэт эканомікі і кіравання гандлем), Дзмітрый Марозаў і Анастасія Януць (факультэт права), Віялета Кацубінская, Ілона Пешкур, Яна Гружэўская і Мая Іўчанка (факультэт «Вышэйшая школа турызму»), Ганна Галуза, Лізавета Місцюкевіч, Дар'я Радчыкава, Андрэй Шурашоў, Іван Зязюля і Павел Хлюст (факультэт міжнародных бізнес-камунікацый), Марына Даўгалёнак, Ганна Занкевіч, Францыск Шышоў і Святлана Крычаўцова (інстытут сацыяльна-гуманітарнай адукацыі), Юлія Магазіншчыкава, Яна Брылеўская і Ксенія Швакель (факультэт міжнародных эканамічных адносін), Алена Кабачэўская (факультэт маркетынгу і лагістыкі), Алег Башмакоў (Бабруйскі філіял БДЭУ), а таксама аспірант кафедры сусветнай эканомікі Фёдар Падгайскі. Пераможцаў павіталі першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў і прарэктар БДЭУ па вучэбнай рабоце Міхаіл Мішкевіч.

Днём раней аналагічнымі ўзнагародамі адзначаны студэнты БДУІР Вадзім Кручкоў, Наталля Хвізюк і Алёна Досава (факультэт камп'ютарнага праектавання), Ганна Лось і Ганна Клокава (інжынерна-эканамічны факультэт), Лізавета Калаур і Максім Васілевіч (факультэт інфармацыйных тэхналогій і кіравання), Наталля Пляшкун (факультэт камп'ютарных сістэм і сетак) і Анастасія Масько (факультэт тэлекамунікацый).

Фота Наталі Купрэвіч

*Генадзь Пашкоў уручае ўзнагароду студэнтцы факультэта фінансаў і банкаўскай справы БДЭУ Дарыне Пальчык.*

**Яна ЯВІЧ**

# Сябры літаратурныя

Вечарына, прысвечаная Дням славянскага пісьменства і культуры, адбылася ў Пасольстве Украіны ў Рэспубліцы Беларусь.

Прысутных прывітаў Часовы павераны ў справах Украіны ў Беларусі Валерый Джыгун. На яго думку, сустрэча — сведчанне моцных літаратурных сувязяў паміж дзвюма краінамі.

Цікавы даклад «Славянская пісьменнасць і беларуска-ўкраінская кірылічная традыцыя» прадставіў навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Юрый Лаўрык. Выступілі таксама Паўліна Скурко, рэдактар сайта Таварыства ўкраінскай літаратуры, і Алесь Наварыч, галоўны рэдактар альманаха «Справа».

Падчас імпрэзы адбылася прэзентацыя першага нумара «Справы», што пабачыў свет сёлета пры дапамозе Таварыства ўкраінскай літаратуры. У выданне ўвайшла проза, паэзія, публіцыстыка, пераклады аўтараў з абедзвюх краін. Асаблівая ўвага — мясцовым гаворкам.

У дзень вечарыны ў зале разгарнулася цэлая выстаўка навінак украінскага кнігавыдання. Гучалі і спевы: аўтэнтычныя песні Палесся выканаў фолк-дуэт «Старое сяло».

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Тэстамент вярнуўся

У літаратурным музеі Максіма Багдановіча экспануецца аўтограф знакамітай паэмы Уладзіміра Жылкі «Тэстамент», а таксама іншыя дакументы, звязаныя з жыццём і творчасцю паэта.

Дырэктар беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка перакананая: убачыць арыгінал «Тэстаменту» павінен кожны беларус. У красавіку 2014 года аўтограф твора, напісанага ў высылцы, патрапіў у фонд з калекцыі Беларускага інстытута навукі і мастацтва. Падчас Другой сусветнай вайны «Тэстамент» быў вывезены ў Германію, прычым чамадан з творам застаўся непашкоджаным у разбураным цягніку, потым апынуўся ў ЗША... Дзякуючы настойлівасці архівістаў і адказнасці апошняга ўладальніка дакумента Вітаўта Кіпеля, аўтограф паэмы вярнуўся на Беларусь. Яшчэ адзін унікальны экспанат, прадстаўлены на адкрыцці выстаўкі, — саматробны зборнік твораў Уладзіміра Жылкі, складзены адным з беларускіх эмігрантаў.

Дакументы, звязаныя з жыццём і творчасцю паэта, захоўваюцца не толькі ў БДАМЛМ, але і ў фондах музея М. Багдановіча. На адкрыцці выстаўкі літаратуразнаўца Мікола Трус расказаў пра людзей, якія дапамаглі захаваць памяць пра Уладзіміра Жылку. Гэта дачка паэта Наталля Лазарава (жыла ў Полацку і працавала настаўніцай), яго брат Барыс Адамавіч, сяброўка Людміла Краскоўская (вядомы славацкі археолаг і нумізмат).

Мастацка-дакументальная выстаўка «Уладзімір Жылка — паслядоўнік Максіма Багдановіча» прымеркаваная да 115-годдзя з дня нараджэння творцы, будзе працаваць да канца чэрвеня.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Кніжны падарунак ад Латвіі

**Адбылася ўрачыстая цырымонія перадачы калекцыі кніг і кінафільмаў Пасольствам Латвійскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь у дар Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.**

Янка Купала сябраваў з выдатным латышскім паэтам Янісам Райнісам, і менавіта гэтае сяброўства стала духоўнай базай, на якой ужо многія гады развіваюцца латвійска-беларускія культурныя праекты, праводзяцца мерапрыемствы, накіраваныя на пашырэнне супрацоўніцтва ў галіне музычнага і цыркавога мастацтваў, тэатру, мастацкай адукацыі, бібліятэчнай, архіўнай і музейнай дзейнасці.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Латвіі ў Беларусі Міхаілс Папкоўс падкрэсліў:

— Наша сённяшняя імпрэза — важны элемент шырокай культурнай праграмы, якая праводзіцца ў межах Старшынства Латвіі ў Савеце Еўрапейскага Саюза. За апошнія пяць месяцаў у Мінску з поспехам прайшлі канцэрты вядомых калектываў класічнай музыкі з Латвіі, адбыўся тыдзень латвійскага кіно, адкрытая выстаўка бурштыну, экспазіцыі сучасных латвійскіх мастакоў. Адбыліся сустрэчы з майстрамі прыкладнога мастацтва, кінематаграфістамі, фотамастакамі. У планах — выстаўка ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы, прысвечаная творчасці латышскіх паэтаў Яніса Райніса і Аспазіі, а таксама фальклорная імпрэза ў гарадскім парку, якая распавядзе пра Ліго — самае папулярнае свята ў Латвіі.

Зборы Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі папоўніліся новай калекцыяй кніг і відэафільмаў на англійскай і рускай мовах. Гэта выданні пра гісторыю, культуру Латвіі, латышскую мову і літаратуру. Збіраліся яны з розных крыніц. Частку кніг прадставіла Нацыянальная бібліятэка Латвіі і Сакратарыят прадстаўніцтва Латвіі ў Еўрасаюзе, частку перадалі аўтары і выдаўцы — на кнігах дарчыя надпісы.



Фота Кастуся Дробава.

*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Латвіі ў Беларусі Міхаілс Папкоўс і намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі па інфармацыйных рэсурсах Таццяна Кузьмініч падчас цырымоніі перадачы кніг.*

Калекцыя фільмаў розных жанраў прадставілі Пасольства Латвіі ў Беларусі і Латвійскі цэнтр кінематаграфіі.

— Спадзяёмся, што выданні будуць запатрабаваныя спецыялістамі, аматарамі кнігі, папоўняць веды пра нашу краіну і яе культуру, паслужаць паглыбленню культурных сувязей паміж Беларуссю і Латвіяй, — заўважыў спадар пасол.

Прымаючы падарунак ад Пасла Латвіі ў Беларусі, намеснік дырэктара НББ па інфармацыйных рэсурсах Таццяна Кузьмініч падкрэсліла:

— Калекцыя папоўніць зборы кніг пра Латвію, што ўжо ёсць у нашай бібліятэцы. Мы будзем вывучаць, папулярызаваць гэтыя выданні, уключаць іх у тэматычныя выстаўкі ў якасці экспанатаў, і, натуральна, нашы чытачы атрымаюць магчымасць пазнаёміцца і папрацаваць з імі.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*«ЛіМ» для індывідуальных падпісчыкаў:*
**1 месяц — 32 900 руб.**
Падпісны індэкс — 63856

*Ведамасная падпіска:*
**1 месяц — 89 900 руб.**
Падпісны індэкс — 638562

*Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў:*
**1 месяц — 20 800 руб.**
Падпісны індэкс — 63815

*Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі:*
**1 месяц — 66 600 руб.**
Падпісны індэкс — 63880

**Акцыя!!!**

***Шаноўныя чытачы «ЛіМа»!***
***У вас ёсць магчымасць гарантавана ўбачыць уласнае прозвішча на старонках нашай газеты.***
***Што для гэтага трэба?***
***Выпісаць выданне на II паўгоддзе і даслаць на адрас рэдакцыі падпісны квіток.***
***Чакаем!***
***З ліку першых, хто падпісаўся, Ганна Атрошчанка і Ганна Прыёмка.***

# Край былінны

**Афіцыйная дэлегацыя Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі ўзяла ўдзел у фестывалі славянскага пісьменства і народнай культуры «На зямлі Баяна» ў Трубчэўску Бранскай вобласці.**

Паводле старшыні абласнога аддзялення СПБ Уладзіміра Гаўрыловіча, свята ў старажытным горадзе прымеркавана да 830-годдзя помніка славянскай літаратуры «Слова пра паход Ігаравы» і сталася юбілейным — трыццатым. Літаратары Гомельшчыны выступілі на адкрыцці і шматлікіх мерапрыемствах форуму, удзельнічалі ў паэтычных чытаннях, мітынгу-ўшанаванні ў гонар ініцыятара славянскага свята — паэта, члена Саюза пісьменнікаў Расіі, лаўрэата міжнароднай літаратурнай прэміі імя Кірылы Тураўскага Сцяпана Кузькіна, наведалі нядаўна адкрыты літаратурны музей горада. Ад імя пісьменнікаў Гомельшчыны гарадскім бібліятэкам у якасці падарунка перададзены новыя кнігі.

У шэрагу яркіх падзей свята — ушанаванне 64 уладальнікаў міжнароднай прэміі Баяна з Беларусі, Украіны і Расіі, якая ўжо цягам трох дзесяцігоддзяў уручаецца яркім прапагандыстам славянскай культуры. У свой час літаратурную прэмію Баяна атрымалі айчынныя літаратары Міхась Башлакоў, Васіль Ткачоў, Юрый Фатнеў, Генадзь Говар, Уладзімір Гаўрыловіч, Міхась Болсун. Рашэннем аргкамітэта сёлета лаўрэатам прэміі Баяна абвешчана паэтэса, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Ніна Шклярава. Ніна Нікіфараўна пераклала на беларускую «Слова пра паход Ігаравы», а цяпер знаёміць беларускага чытача са сваімі перакладамі твораў сучасных расійскіх калег.



*Лаўрэат прэміі Баяна Ніна Шклярава на фестывалі ў Бранскай вобласці.*

Тры гады таму Гомельскае аддзяленне СПБ выдала паэму бранскага паэта Мікалая Мельнікава «Рускі крыж» на трох мовах: беларускі пераклад зрабіла Ніна Шклярава, а ўкраінскі — гомельская паэтэса Алена Матвіенка.

**Мікалай ІГНАТОВІЧ**

# Дзеля Памяці

Арт-студыя «TALENT» прэзентавала праект «Ніколі», прымеркаваны да 70-годдзя Вялікай Перамогі. Удзел у ім узялі больш як семдзесят дзяцей.

Імпрэза адбылася ў кінатэатры «Перамога». Прысутныя мелі магчымасць пабачыць выстаўку графічных партрэтаў: юныя творцы намалявалі вуглём сваіх прабацькоў — удзельнікаў Вялікай Айчыннай.

Прадстаўлены таксама кароткаметражны паэтычны фільм «Ніколі» з дзвюх частак рэжысёра Ірыны Брэль. Першая прысвечана беларускай прыродзе, якая дагэтуль нясе на сабе след ваенных падзей. Другая — сучасным дзецям, што захоўваюць памяць дзядоў. У фільме гучаць вершы Аркадзя Куляшова «Бярозка» і «Над брацкай магілай».

Падчас імпрэзы для гасцей выступіў міні-аркестр: дзеці спявалі ваенныя песні. Напрыканцы адбылося ўрачыстае ўручэнне дыпломаў.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Новае свята паэзіі

На базе адкрытага акцыянернага таварыства «Бярозаўскі сыраробчы камбінат» адбылося літаратурна-музычнае свята пад сімвалічнай назвай «Славянскі вянок» — другое па ліку, але першае ў такім шырокім фармаце.

На свята ў Бярозу з'ехаліся госці не толькі з Брэстчыны, але і з Расіі, Украіны, Польшчы.

Галоўнай дзеі, якая разгарнулася ў актавай зале прадпрыемства, папярэднічала экскурсія па цэхах і горадзе. Кульмінацыяй фэсту сталася літаратурна-музычная імпрэза. Удзел у ёй узяў дырэктар акцыянернага таварыства Уладзімір Папеня. Ён падтрымаў прапанову намесніка па ідэалагічнай рабоце Леаніда Грэчкі аб заснаванні паэтычна-музычнага свята. Узнікла ідэя праводзіць у межах «Славянскага вянка» традыцыйную, распачатую ў 2006 годзе, цырымонію ўзнагароджання лаўрэатаў літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка Брэсцкага аблвыканкама і пераможцаў дзіцяча-юнацкага літаратурнага конкурсу з удзелам творчай грамадскасці з усяго свету.

У свята шмат рупліўцаў. Галоўны арганізатар сцэнічнай часткі мерапрыемства і яго вядучая — Вольга Чапайла. Былі запрошаны пісьменнікі з Польшчы Рафал Гавін, Марцін Бяльчэўскі і Барбара Драздзінская, старшыня таварыства «Беларусь — Польшча» ў г. Лодзь, якая адмыслова выконвала беларускія песні, украінскія літаратары Аксана Гаджый, Лесік Панасюк і Юлія Кручак, а таксама расійскія, з Браншчыны, — Наталля Мішына і Уладзімір Сарочкін. Берасцейскае пісьменніцтва прадстаўлялі аўтар гэтых радкоў, Наталля Кандрашук з Кобрына і Алёна Папко з Бярозаўшчыны.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ**

# Пра «Гарбузік», вучняў і настаўнікаў

Летась рэдакцыя часопіса «Вясёлка» распачала выпуск выдання для дашкольнікаў «Буся», а зусім нядаўна дзеці ды іх бацькі атрымалі яшчэ адзін падарунак — літаратурна-забаўляльны дзіцячы альманах «Гарбузік» пад рэдактарствам Паліны Грынчанка і Вольгі Мазуравай.

Кожны твор альманаха — не проста займальнае чытво, а стымул да роздуму, разважанняў, аналізу. Невыпадкова і назвы яго рубрык аднаслоўны: «Чытаем», «Вывучаем», «Назіраем», «Думаем», «Майструем».

У альманаху, па-сучаснаму аформленым Вольгай Раманюк, Наталіяй Кійко, Вольгай Бабурынай, Беатрыкс Потэр і Ганнай Сілівончык (апошнія дзве мастачкі пашчыравалі над уласнымі казкамі), дзеткі пазнаёмяцца з вершамі Уладзіміра Мацвеенкі і Андрэя Хадановіча, арыгінальным беларуска-англійскім вершаваным слоўнікам, складзеным Аленай Церашковай, і яе ж паэтычным расповедам «Клапатлівыя машыны» — пра «хуткую дапамогу», паштовую, пажарную ды іншыя. Далучае альманах юных чытачоў і да айчыннай гісторыі. І гэта яшчэ не ўсе цікавосткі!

***

Сярэдняя школа № 59 у г. Мінску адкрылася два гады таму, а Наталля Галубовіч прыйшла сюды выкладаць беларускую мову і літаратуру зусім нядаўна. Але менавіта ёй належыць ініцыятыва запрашаць на асобныя ўрокі сучасных беларускіх пісьменнікаў. І першаадкрывальнікам у гэтай справе стаў Анатоль Зэкаў.

Выступленне перад пяцікласнікамі госць пачаў ваеннымі вершамі са свайго зборніка «Параненая памяць», выдадзенага напярэдадні юбілею Вялікай Перамогі. Прачытаў ён і вершы пра Радзіму — дарагі сэрцу Буда-Кашалёўскі край. Школьнікі адгадвалі загадкі, рашалі вершаваныя матэматычныя задачкі.

***

Шмат цікавых і разнастайных мерапрыемстваў за адзінаццаць школьных гадоў правялі сёлетнія выпускнікі сталічнай гімназіі № 29. У ліку новых імправізаваная сустрэча-інтэрв'ю з Анатолем Зэкавым — своеасаблівая вандроўка па старонках жыцця і творчасці пісьменніка.

Анатоль Зэкаў не толькі адказваў на пытанні гімназістаў, але і падмацоўваў кожны адказ канкрэтнай гісторыяй ці вершам — і ўсур'ёз, і жартам.

***

На сустрэчу з пісьменнікам Анатолем Зэкавым у мясцовую кнігарню «Кніжны свет» юныя жыхары Жодзіна прыйшлі не з мамамі і татамі, а з настаўнікамі.

Супрацоўніца выдавецтва «Мастацкая літаратура» Зося Кустава распавяла пра новыя кнігі і серыйныя выданні для дзяцей, што пабачылі свет у гэтай установе. Аўтар пазнаёміў хлопчыкаў і дзяўчынак са сваімі кнігамі «Не казкі пра Сашку» і «Безбілетны Зай».

**Аліна РАЧЫЦКАЯ**

# Пушкін № 3

Бюст Аляксандра Пушкіна ўрачыста адкрыты ў дзень нараджэння паэта ў Магілёве каля дзяржаўнага бібліятэчнага каледжа, які носіць яго імя. Магілёў атрымаў бюст у падарунак ад расійскіх мастакоў і архітэктараў у межах патрыятычнага праекта «Алея расійскай славы». У цырымоніі ўзялі ўдзел прадстаўнікі гарадской улады, грамадскасць і моладзь. Віншаванні з важнай падзеяй у культурным жыцці выказалі старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Дуктаў, паэт Аляксандр Казека.

Новы помнік вялікаму рускаму паэту стаў трэцім па ліку у Магілёве: адзін усталяваны ў скверы каля кінатэатра «Космас», другі — на тэрыторыі гарвадаканала.

**Уладзімір САСНОЎКІН**

# Архіўнымі дарогамі

Днямі адзначыў 55-годдзе Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Духоўная скарбніца беларускай культуры захоўвае дакументы, па якіх вывучаюць жыццё ў мінулыя стагоддзі і даюць уяўленне пра наш час. Тут праводзяцца выстаўкі, прэзентацыі, штогадовыя архіўныя і Узвышаўскія чытанні. БДАМЛМ утрымлівае больш за 500 фондаў: пісьменнікаў М. Багдановіча, Я. Брыля, А. Куляшова, Я. Купалы, Я. Коласа, І. Мележа, кампазітараў А. Багатырова, Ю. Семянякі, Д. Смольскага, акцёраў і рэжысёраў А. Клімавай, С. Станюты, Р. Янкоўскага, спевакоў Л. Александроўскай, М. Забэйды-Суміцкага, мастакоў і скульптараў І. Ахрэмчыка, Г. Вашчанкі, А. Кашкурэвіча, С. Селіханава, фонды кінастудыі «Беларусьфільм», беларускіх тэатраў, рэдакцый літаратурна-мастацкіх часопісаў і газет ды інш.

Раней архіў-музей знаходзіўся ў памяшканні сучаснай царквы Пятра і Паўла, цяпер — у будынку былога езуіцкага касцёла святога Іосіфа. Калісьці ў БДАМЛМ тэлефанавалі Янка Брыль, Сяргей Грахоўскі, Віталь Скалабан, згадвае Ганна Запартыка. Шмат гадоў аддалі архіўнай справе Таццяна Кекелева, Марыя Пышынская, Вольга Бярэйшык, Валянціна Данекіна, Ірына Евенка, для якіх праца тут — цэлае жыццё. У розны час архіў-музей узначальвалі К. Жорава, Г. Сурмач. З 1993 г. архівам кіруе Ганна Запартыка. З юбілеем калектыў павіншавалі Дэпартамент па архівах і справаводстве пры Міністэрстве юстыцыі, шматлікія госці святочнай імпрэзы. Завіталі Аляксандр Вашчанка, Міхась Башлакоў.

Сапраўдным святам для архівістаў стала паездка ў сядзібна-паркавы комплекс у Лошыцкім парку: пазнаёміліся з экспазіцыяй філіяла Музея горада Мінска, які нядаўна адчыніў свае дзверы для наведвальнікаў.

**Дар'я ЛЁСАВА**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**22 чэрвеня** — *на свята дзіцячай кнігі, якое пройдзе ў межах рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай» у Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Я. Купалы (вул. В. Харужай, 16). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**22 чэрвеня** — *на творчую імпрэзу «Раскажу вам пра вайну», падчас якой адбудзецца прэзентацыя кніг пісьменнікаў Ніны Галіноўскай і Міхася Пазнякова, выпушчаных выдавецтвам «Чатыры чвэрці» ў серыі «Дзеці вайны». Мерапрыемства пройдзе ў публічнай бібліятэцы №14 (вул. Прытыцкага, 42). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**22 чэрвеня** — *на прэзентацыю кнігі патрыятычнай паэзіі «Па праву жывога» ў Мінскім гарадскім навучальна-аздараўленчым цэнтры «Лідар» (г. п. Ждановічы). Мерапрыемства прысвечана дню памяці народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**23 чэрвеня** — *на творчы вечар паэтэсы Людмілы Клачко. Імпрэза адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак у 17:30.*

**23 чэрвеня** — *на свята дзіцячай кнігі ў межах Рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай» — з удзелам пісьменніка Генадзя Аўласенкі. Мерапрыемства адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 7 (вул. Пляханава, д. 97/4). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**24 чэрвеня** — *у Школу юнага літаратара пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5, каб. 309). Кіраўнік — пісьменнік Міхась Пазнякоў. Пачатак а 14-й гадзіне.*

## Галіна АСІПОВІЧ



***

*Спяшайся вярнуцца туды,*
*Адкуль ты выходзіў у людзі.*
Алесь Жыгуноў

*Імчала да цябе здалёк,*
*Спяшалася з-за небакраю*
*Пабачыць, як там, між дарог,*
*Хаціна, сэрцу дарагая,*

*На апусцелы двор зірнуць,*
*Жыццё дзе наша вiравала,*
*І клямку ціхенька крануць,*
*Дзе вёска лёс мой гадавала.*

*Усюды ціш — пустая хата,*
*Сцяжынкі часам зараслі.*
*І хто, скажыце, вінаваты*
*У здрадзе роднае зямлі?*

*Ніхто на гэта не адкажа,*
*Ківаюць дружна ўсе на час:*
*Ён загадае, абавяжа,*
*Ён і пакрыўдзіцца на нас!*

***

*Думка цэлы дзень адна вярэдзіла:*
*Да мяне вярнулася паэзія!*
*Да мяне вярнулася бяссонніца,*
*Улюбёнасць у жыццё — бясконцая.*
*Да мяне вярнулася, не здрадзіла,*
*Той сцяжынкай, што даўно*
*пракладзена.*
*Значыць, зноў мне суджана смяяцца,*
*Даставаць усмешкі з сэрца-ранца!*
*Значыць, я пазбегла адзіноты —*
*Будзе вецер мне спяваць лістотай,*
*Будуць людзі ўсміхацца шчыра,*
*Поле свой прастор раскрые шырай.*

*Цэлы дзень мне думка сэрца рэзала:*
*Да мяне вярнулася паэзія!*



Фота Кастуся Дробава

## Аліна ЛЕГАСТАЕВА



***

*Што суд людскі? Мяне асудзіць Божы.*
*Што спомін дзён? Сплылі, як даўні сон.*
*А верасень стаяў такі прыгожы —*
*На дрэвах тлела золата карон.*

*А ў чулым сэрцы камянела стома,*
*Надзей і мрояў дагараў агонь.*
*То трапятаў, то падаў нерухома*
*І ў цёмнай ночы след знікаў яго.*

*Мой след таксама не прыкмеціць кожны,*
*Сыду з палёгкай, ледзь прымну траву.*
*Што суд людскі? Мяне асудзіць Божы.*
*Заўчас схіляю ў храме галаву.*

***

*Да чалавека туліцца сабака,*
*А чалавек — дык хіліцца да Бога.*
*Да неба — хмарка, да гняздзечка – птаха,*
*Да ночы — дзень, дарога — да парога.*

*А за апошнім — сцішаная вечнасць…*
*І ні паперы, ні ў руцэ пяра.*
*І толькі тое ўрэшце застаецца,*
*Што пакідаеш пры яе дзвярах…*

***

*Абсыпае зямлю язмін —*
*Адлятаюць на крылах вёсны.*
*Ці то сум, ці то белы дым,*
*Ці змярцвеласць пачуццяў млосных.*
*Ці то мроі, а ці то сны,*
*Ці імгненняў нямыя словы,*
*Ці паштоўкі яшчэ з вайны,*
*Што чакаюць і сёння ўдовы.*
*Можа, гэта сляды святых*
*Праз цярністых шляхоў быльнёгі?*
*Можа, усіх змагароў сляды*
*На дарогах да Перамогі?*

### У Вязынцы

*Ля свірна елкі ўглядваліся ў неба,*
*Над ціхай грэбляй плыў птушыны спеў.*
*Паветра пахла свежай лустай хлеба —*
*Гарачы дзень над Вязынкай ляцеў.*

*Ён творцу даў зямлі, а нам — паэта,*
*Якога час у твар яшчэ не знаў.*
*Таго, хто да вялікасці Сусвету*
*Славеснасць беларускую узняў.*

*І быў другі — жалобаю працяты*
*Бязмерный страты з незлічоных бед,*
*Калі па ўскрайку зморанай спякоты*
*Да ясных зорак адышоў паэт.*

*Але на ўсе часы звязалі словы*
*Зямлю і неба. Памяць і граніт.*
*Тут дух яго, як лета пах ліпнёвы,*
*І промні думак свецяць скрозь нябыт!*

***

*Што было — як сплыло*
*Пеннай брагай.*
*Лета зноў апякло*
*Вусны смагай.*
*А яе наталіць —*
*Плыць і ехаць*
*Па шляхах край зямлі*
*І па рэках.*
*Там, як птахі, праз дым*
*Весялосці*
*Праляцелі гады*
*Маладосці.*
*«Не дагнаць табе іх!» —*
*Шэпат з поўні.*
*А ў бяссоннай крыві —*
*Кліч вандроўны.*
*А яго наталіць —*
*Плыць і ехаць*
*Край зямлі, край вады —*
*Там, дзе рэха…*

## Стася КАЦЮРГІНА



### У.

*Ты смяешся!*
*(зводзяцца ўсе пуці)*
*І так лёгка цяпер спазнаць*
*цябе!*

*Мне б раніцай скурку сваю знайсці*
*жабіну і сукенку зладзіць.*
*Ды пяшчотай згладзіць маршчынкі тры*
*(сёння тры ля вачэй усмешлівых).*

*Шчасце гэтае просіцца жыць унутры*
*(Якое ж яно*
*паспешлівае!)*

*Ты смяешся! Бачыцца мне ўвачч*у
*гэты дзень з кампазіцыяй рамачнай.*
*Я з табою разумніцай быць хачу,*
*быць пацалункам у ямачку*
*на шчацэ (як у Мамы тваёй)!*
*Душу*
*зберагла для гэтага Сэрца!*
*Госпадзі,*
*ні пра што не прашу —*
*Ён смяецца!*

***

*Пяюць пад вокнамі аўтамабілі…*
*«Пра што-пра што?» —*
*пранізліва ліхтар шапоча.*
*Неспакоем запалілі*
*Вы*
*увесь гэты*
*«пад-зоркамі» прастор*
*падзораных,*
*сівых і сіратлівых*
*аблокаў!*
*Іх мне ноччу сцерагчы*
*і працаю сізіфавай*
*уначы*
*да свята пацалункаў дакранацца,*
*свой несці крыж*
*і да сябе вяртацца*
*адзінаю, бо не сказаць «адной»!*
*Пяюць аўтамабілі.*
*За сцяной*
*маўчанне крышаць звадкамі суседзі.*
*Вы шэпчаце: «Нікуды не паедзем»…*
*Ды й проста паўза, кропка і прагал.*
*І слухаўкай мяне пацалаваў*
*так памяркоўна,*
*так па-беларуску,*
*што я баюся, разамкнуўшы вусны,*
*апошнюю пяшчоту падзяліць.*
*Бо Вы мяне ніколі не любілі!*
*Спявалі праз жыццё аўтамабілі*
*і вусцішна маўчалі салаўі!*
*І рыфмаю сцюдзёнаю «любві»*
*Вы мне шапталі гаманою/цішшу*
*у самую душу «Я ненавіджу,*
*Цябе, мая няпрошаная Таць,*
*Так, як астатнім дадзена кахаць!»*

***

*Ісці і бачыць снег.*
*Быць смелай за плячыма.*
*І праз гады прысніць,*
*і зноў крычаць у сне.*
*Быць Еваю не грэх,*
*а з яблыкам дзяўчынай*
*смяротна. Не даплыць*
*і да світанку мне.*

*Прашу тваёй рукі!*
*Дазволь безабароннасць.*
*Я дотыкам адным*
*асветлена! Табе*
*усе белыя сцягі!*
*Ды не бяруць палонных*
*за пачуццё віны!*
*Тры кропкі.*

*І прабел*
*стамляецца ў журбе*
*на словах:*
*друкаваных,*
*сказаных ды й забытых*
*назаўжды,*
*нястомных і жывых,*
*прамоўленых старанна*
*не для мяне.*

*Бязмоўныя дажджы*
*ідуць, як сувязныя па маўчанні.*
*І подзвігам здаецца мне жыццё.*
*І працякае дзень —*
*нібыта ў кране*
*з апошняй кропляй зiкла пачуццё*
*нязнанае, як пацалункаў выйсце,*
*салёнае — па вуснах і грудзях,*
*як адчуванне новага жыцця,*
*што праз мяне адкрыецца калісьці...*
*І стане домам мне дзіцячы смех.*

*Ну, а пакуль ісці і бачыць снег.*
*І за плячыма быць нямілай, можа ...*
*І толькі прамаўляць: «Магутны Божа,*
*і з гэтай небяспечнай вышыні*
*Ты ад мяне яго абарані!»*

*Бо столькі гора ў вобразе святым,*
*Бо гэта мора шчасця не па ім,*
*Што ўсё мінула — зноўку не пачаць!*
*Я гэты дзень вынашу на плячах.*
*І я журбы падманлівы прысуд*
*Яшчэ не пакаханаму нясу.*

***

*З гэтай рамонкавай летняй дарогі*
*прынясі пялёстак мне (хоць адзін)!*
*У акіяны мае паглядзі*
*радасным Богам!*

*Жоўтай сярэдзінкай выпацкай нос*
*кожнаю кветкай (у белай сукенцы,*
*з белай душою), што ў памяць прынёс*
*юнай паненцы.*

*Кажаш:*
*«Пянёнцы, манеты, «грошы»*
*гэтага часу не выкупяць, Стася!..*
*Час не прабачыць!»*
*Каб толькі дажыць*
*белае Шчасце!*
*Шэпчуць дажджы: «Застанься!..»*

Дэбют

**Аляксандр Паўлюковіч нарадзіўся ў вёсцы Осаўцы Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці. У 1981 годзе скончыў Беларускі політэхнічны інстытут па спецыяльнасці «Інжынер-гідратэхнік». Жыве ў Мінску. Працуе ў Беларускім навукова-даследчым інстытуце энергетычнай прамысловасці. Аўтар праекта «Каб знал і помнілі. Спаленыя вёскі Лагойшчыны» ў лагойскай раённай газеце «Родны Край», шматлікіх краязнаўчых публікацый.**



Аляксандр ПАЎЛЮКОВІЧ

# Сярэбраны рубель

Ішоў 1939 год. Дарогу паступова замятала, мароз мацнеў. Часам завея заціхала, як бы збіралася з сіламі, а потым зноў пачынала кружыць па бялюткіх палях і пустой дарозе.

Конь стаміўся і цяжка цягнуў па свежым снезе сані, на якіх, захінуўшыся ад завірухі кажухом, сядзеў Апанас Яцкевіч, жыхар вёскі Кандратавічы. Ён вяртаўся ад сястры. Даўно не бачыліся, заседзеліся за гутаркамі, а тым часам за акном разгулялася непагадзь, і трэба было паспець дамоў, пакуль не сцямнела.

Дома яго чакалі жонка і трое дзяцей. Пачынала змяркацца. Апанасу хацелася хутчэй залегчы дома на гарачую печку і пагрэцца пасля пранізлівага холаду. З такімі думкамі ён пад'язджаў да Прырэза, невялічкай вёсачкі, што атрымала назву пасля таго, як да мясцовага калгаса «прырэзалі» частку зямель ад суседняй гаспадаркі і там пасяліліся людзі. Да родных Кандратавіч засталося зусім мала — кіламетры два. Раптам конь чмыхнуў, адскочыў убок і спыніўся. Не зразумеўшы, у чым справа, Апанас злез з саней і ўбачыў, што на дарозе ляжыць чалавек, якога ўжо пачало замятаць снегам. Чалавек быў жывы. Усцягнуўшы яго на сані, Апанас пазнаў Іосіфа Шолкавіча, які жыў на хутары за кіламетр ад Прырэза.

Высветлілася, што ў Іосіфа страшна балеў жывот, таму ён ішоў у Лагойск, у бальніцу, але па дарозе праз боль і слабасць знепрытомнеў і зваліўся проста на дарогу. Што ж рабіць? Калі павярнуць на Лагойск і давезці Шолкавіча да бальніцы, а потым дахаты, гэта шлях даўжынёй прыкладна ў 15 кіламетраў. А ці вытрымае калгасны конь такую дарогу?.. Калі не — Апанаса могуць арыштаваць як шкодніка і ворага народа. А з іншага боку, Іосіф самастойна да Лагойска не дойдзе, і малаверагодна, што хтосьці яшчэ ў такое надвор'е, тым больш на ноч гледзячы, паедзе гэтай дарогай у Лагойск. Раздумваў Апанас нядоўга.

— Будзь што будзе, завязу цябе ў бальніцу, а там — на ўсё воля Божая.

Як ні хацелася дахаты, але ж не кінеш чалавека паміраць на дарозе! І конь пацягнуў сані ў бок Лагойска.

У бальніцу даехалі своечасова — Шолкавіча адразу паклалі на аперацыйны стол. Высветлілася, што ў яго быў апендыцыт. Пажылы доктар, які прыняў хворага, сказаў:

— Ваша шчасце. Яшчэ некалькі гадзін — і мы б яго не выратавалі.

Позна, папоўначы, прыехаў Апанас у Кандратавічы. Каня паставіў у стайню, добра накарміў, і ўсё абышлося. Не ведаў жа тады, што гісторыя з Шолкавічам будзе мець працяг праз некалькі гадоў, падчас вайны.

Ужо вясной Шолкавіч прыехаў у Кандратавічы да свайго выратавальніка і спытаў:

— Як аддзячыць табе?

— Буду ляжаць на дарозе — паднімеш, — жартаўліва адказаў Апанас і дадаў: — Ды нічога мне не трэба, досыць, што ўсё так добра скончылася.

Шолкавіч зняў шапку, пачухаў лысіну. Была ў яго такая дзіўная звычка… Потым, падумаўшы, сказаў:

— Ведаеш, ёсць у мяне вельмі добры гатунак бульбы, рассыпістая, смак цудоўны — нідзе гэткай у акрузе няма. Я табе дам мяшок, развядзеш.

Вясной пасадзілі бульбу і з гэтага мяшка паступова развялі гатунак, які потым разышоўся па ўсёй вёсцы. Ці суглінкавая глеба для яго прыдатная, ці гатунак удалы, але бульба сапраўды была смачная…

Сам Іосіф Шолкавіч жыў на хутары, які мясцовыя называлі Балдонаўка. Недалёка ад хутара да рэвалюцыі месціўся панскі маёнтак, куды яшчэ юнаком і патрапіў Іосіф — быў садоўнікам. Добрыя адносіны склаліся ў працавітага і стараннага хлопца з сям'ёй гаспадара. Пан выпісваў з Еўропы новыя гатункі бульбы, расліны, разводзіў іх у сваёй гаспадарцы. Так гэтая элітная бульба прыжылася ў нашых краях.

Калі гаспадар памёр, Іосіф ажаніўся з яго ўдавою, хоць тая была крыху старэйшая. Пасля рэвалюцыі маёнтак перайшоў ва ўласнасць дзяржавы, там стварылі калгас. А праз некаторы час пачалася вайна.

Партызаны будавалі зямлянкі, нападалі на мясцовыя паліцэйскія ўчасткі, мініравалі дарогі і абстрэльвалі нямецкія машыны. У адказ нямецкія ўлады праводзілі карныя аперацыі. Але ваяваць з партызанамі ў лесе было цяжка, і карнікі сталі спальваць цэлыя вёскі разам з жыхарамі — за сувязь з партызанамі.

Усю тую вясну і лета 1943-га на Лагойшчыне бушавалі пажары. Не мінула страшная доля і Кандратавічаў — у чэрвені карнікі спалілі вёску разам з часткай жыхароў. Хоць і папярэдзілі паліцаі з Лагойска, што Кандратавічы будуць паліць, але вяскоўцы ўсё адно не ўсцерагліся. Сваячка Апанаса, Шура, даведаўшыся, што рыхтуецца расправа, уначы пабегла з Лагойска ў вёску напрасткі палявымі дарогамі, каб не патрапіць на паліцэйскія пасты, і папярэдзіла жыхароў. Людзі сталі начаваць у лесе.

Раніцай прайшоў кароткі летні дождж, была раса на траве. Узышло сонца і па-летняму ярка асвятляла вёску, жыхары якой яшчэ не ведалі, што ім наканавана. Многія сем'і правялі тую ноч у лесе, але які там сон — холадна, есці хочацца, ды і камары даймаюць. Гаспадыням трэба было даіць кароў, гатаваць — у сем'ях тады гадавалася многа дзяцей. Немцаў бачна не было, і раніцай вяскоўцы вярнуліся дахаты, падумаўшы, што ў гэты дзень карнікаў, якія зазвычай акружалі вёскі яшчэ зацемна, не будзе.

Апанас таксама начаваў у лесе з сынам Пецем. Жонка Аня засталася ў хаце з малодшым — двухгадовым Мішам — і чатырнаццацігадовай Верай. Вярнуўшыся дахаты, Апанас разам з сынам залез на печ пагрэцца і адразу задрамаў.

Прысніўся яму дзіўны сон: прыйшоў да яго бацька-нябожчык і прамовіў незразумелыя словы, падобныя да дзіцячай лічылкі: «Дзе схаваўся — там і сядзі, нікуды не хадзі».

Аказалася, сон быў прарочым, але гэта высветлілася пазней. Пасля трагедыі Апанас часта ўзгадваў бацькава папярэджанне. Перад смяротнай небяспекай ён ува сне прыйшоў на дапамогу да сына, імкнучыся выратаваць яго сям'ю. Ёсць жа ў жыцці нейкая таямнічая, невытлумачальная сіла!

…А ў тую чэрвеньскую раніцу Апанаса абудзіў крык жонкі.

Аказалася, мясцовы жыхар Трафім праскакаў на кані па вуліцы з крыкам, што немцы акружаюць. Тых выдалі мокрыя ад дажджу каскі, што блішчалі на сонцы. Гэта ўбачыў мясцовы хлопец Коля і стаў крычаць на ўсю вёску:

— Немцы! Ратуйцеся, уцякайце!!!

Выратавацца паспелі збольшага жыхары пасёлка, перавезеныя з хутароў. Карнікі не паспелі іх акружыць, і тыя ўцяклі ў лес.

Яцкевічы саскочылі з печы, пабеглі ў адзін бок — стаяць карнікі, у другі — таксама ачапленне. Давялося вярнуцца ў хату. Праз некаторы час Апанас праз акно ўбачыў, як жыхароў вёскі вядуць па вуліцы да школы, дзе заўсёды праводзілі сходы, і сказаў жонцы:

— Ну, баба, будзем уцякаць — ужо ідуць немцы і гоняць народ.

Апанас кулаком выбіў аконную раму, і сям'я праз акно вылезла ў школьны сад, каля якога і стаяла хата. Праз дзверы не выходзілі — там маглі заўважыць. Паспрабавалі ўцячы да лесу праз жытняе поле, але па іх сталі страляць. Вера ўсё ж такі ўцякла ў жыта і перачакала там, а астатнім давялося вярнуцца назад. Быў чэрвень, і вырасла высокая, яшчэ не кошаная, трава. Тут Яцкевічы і схаваліся. Хацелі паўзці далей, але не атрымалася: за кустом ішла дарожка да школы, і па гэтай дарожцы хадзілі карнікі ў жаўтавата-зялёнай форме. Вось тут і ўспомніўся Апанасу бацькаў наказ. Там і заставаліся, пакуль усё не скончылася. Карнікі не заўважылі іх, можна сказаць, пад нагамі, як быццам сам Бог захінуў ім вочы. А Яцкевічы сядзелі пад кустом і бачылі, як га-рэла школа з людзьмі, чулі іх крыкі і стогны, адчувалі цяжкі пах: дым разносіўся ва ўсе бакі. Выратаваўся, схаваўшыся пад кустом парэчак, і сусед Іван Пятровіч, разам з якім Апанас па вечарах цішком чытаў забароненую тады Біблію — мабыць, і яго Бог зберог.

Пасля ацалелыя вяскоўцы разбрыліся хто куды. Пайшлі на пастой да чужых людзей, тыя дзяліліся і ежай, і адзежай. Аднойчы Апанас сустрэў Іосіфа Шолкавіча, і той паклікаў Яцкевічаў да сябе. Многія жыхары баяліся браць людзей са спаленых вёсак: немцы забаранялі прымаць «памагатых партызан», пагражаючы расстрэлам. А Шолкавіч памятаў, як выратаваў яго Апанас. Так і жылі яны ў хаце Іосіфа, разам працавалі, елі хлеб з малаком ды бульбу. Была ў іх і карова, якая адбілася ад статка, калі паліцаі пагналі яго з запаленых Кандратавіч у Лагойск. Але карову зімой трэба карміць, вось і пайшлі Апанас з Іосіфам раніцай накасіць травы каля лесу. Выбралі найлепшае месца. Толькі пачалі касіць — з лесу выйшлі нямецкія салдаты на чале з афіцэрам. Яны ішлі ланцугом, прачэсвалі лес, шукалі партызан і моладзь, якая хавалася ад угону ў Германію.

Уцякаць было позна, шлях у лес быў адрэзаны. Немцы акружылі іх, штосьці казалі па-свойму, з усяго зразумела было толькі адно слова — «партызанэн». Падышлі афіцэр з перакладчыкам, спыталі: хто яны, што тут робяць. Шолкавіч растлумачыў, што яны сяляне з бліжэйшай вёскі, прыйшлі нарыхтоўваць сена. Выслухаўшы перакладчыка, афіцэр пакруціў галавой і нешта сказаў яму. Перакладчык сказаў Апанасу з Іосіфам:

— Вы ёсць памочнікі партызан, яны вас расстраляюць.

Апанас ды Іосіф сталі тлумачыць афіцэру і перакладчыку, што не дапамагалі партызанам, малілі адпусціць іх дахаты, казалі, што ў іх ёсць сям'я і маленькія дзеці. Нічога не дапамагло — афіцэр паклікаў салдата і штосьці загадаў яму. Салдат зняў з пляча вінтоўку і рукой паказаў у бок лесу. Немцы ланцугом пайшлі далей, а салдат павёў іх расстрэльваць.

Каля лесу быў невялікі яр, на край якога і паказаў нямецкі салдат. Ланцуг карнікаў ужо даволі далёка адышоў ад месца пакарання. Апанас паглядзеў на неба: там спяваў жаваранак, ярка свяціла сонца. Вакол раскінуліся някошаныя сенажаці, буялі палявыя кветкі, ад лёгкага подыху ветру варушыліся галінкі лясных дрэў. Было цёпла, але не горача — звычайная летняя раніца. Прырода жыла сваім жыццём — здавалася, немагчыма пазбавіць чалавека жыцця тут і цяпер. Яны не хацелі паміраць, але салдат падняў вінтоўку. Сталі развітвацца, і Апанас сказаў:

— Прабач, Іосіф. Не прыйшоў бы я да цябе — ты б застаўся жывы.

— Ты не вінаваты, усе мы пад Богам ходзім: ты мяне выратаваў калісьці, і я хацеў дапамагчы, — адказаў Іосіф.

Яны абняліся, перахрысціліся. Так і сталі на краі яра пад дулам нямецкай вінтоўкі. Салдат тузануў затвор. Іосіф звыклым рухам зняў з галавы шапку, пачухаў... Салдат пачаў нацэльвацца.

Раптам, як быццам штосьці ўспомніў, Іосіф зноў зняў шапку і закрычаў немцу:

— Пан, стой, не страляй! Рубель, пан, вазьмі, рубель!

З гэтымі словамі Іосіф адараваў у шапцы падкладку, выцягнуў адтуль сярэбраны рубель і паказаў немцу. Гэта была манета яшчэ царскай чаканкі. Той апусціў вінтоўку і паказаў рукой: падыдзі. Іосіф падышоў і перадаў яму рубель.

Гэты немалады нямецкі салдат ведаў жыццё. Ён агледзеў манету з усіх бакоў, пакаштаваў на зуб і задаволена прамовіў:

— Гут.

Затым азірнуўся на ланцуг карнікаў, якія адышліся ўжо далёка, і на ламанай мове сказаў:

— Я піф-паф — ві шнель убегайт.

Знакамі паказаў, што будзе страляць у паветра, а яны хутка пабягуць у лес. Як жа крута ўсё змяніў сярэбраны рубель! Жыццё ліпела на ніцы, нічога не каштавала і раптам вырасла ў цане: кошт яму — сярэбраны рубель, прыхаваны ў старой шапцы. Не паверыўшы такому павароту падзей, яны яшчэ некаторы час у здранцвенні стаялі перад немцам. Салдат яшчэ раз паказаў рукой на лес і сказаў:

— Шнель, шнель.

Апанас ды Іосіф павольна пайшлі ў бок лесу. Бегчы не маглі — ад перажытага страху ногі не слухаліся, сталі як ватныя. Не верачы яшчэ ў цудоўнае збавенне ад смерці, аглядаючыся, як бы не стрэліў немец ім у спіны, падышлі да лесу. І тут раздаліся стрэлы. Мужчыны, здрыгануўшыся, азірнуліся — немец страляў у паветра, як і абяцаў. Гэтыя стрэлы надалі ім сілы, вярнулі да рэальнасці, і абодва як па камандзе кінуліся ў лес, пад абарону дрэў, дзе ўжо ніхто не мог і адабраць жыццё. Беглі, пакуль не зваліліся без сіл на лясной паляне. Другі раз мінулі смерці, але цяпер ужо разам — так распарадзіўся лёс…

Шмат гадоў прайшло. Іосіф пасля вайны жыў у вёсцы Прырэз, якую неўзабаве перайменавалі ў Зялёны Сад. Апанас пабудаваў хату ў аднойменных Кандратавічах і дажываў там свой век з жонкай. Пасля вайны Іосіф і Апанас часта сустракаліся і ўспаміналі мінулае. Апанасавы сыны часта прыязджалі да пастарэлага Іосіфа і дапамагалі па гаспадарцы. На месцы цудоўнага выратавання сваёй сям'і Апанас паставіў вялікі драўляны крыж. А там, дзе была школа, сення стаіць гранітны помнік — сведка фашысцкага генацыду. У дні памяці сюды з кветкамі прыходзяць сваякі і землякі тых, хто загінуў у агні ліхалецця.

Так скончылася гэтая непрыдуманая гісторыя, якую і цяпер распавядаюць у Кандратавічах, абавязкова нагадваючы: дабро вяртаецца заўсёды, якое б цяжкае выпрабаванне ні падрыхтаваў чалавеку лёс.

# Паўтарыць маршрут Купалы



Браціслава. 1930-я гады.

**Заўтра ў межах культурна-адукацыйнага і выставачнага праекта «Славацкімі шляхамі Янкі Купалы» распачнецца паездка дзеячаў айчыннай культуры ў Славакію. Пра мэты і змест творчага падарожжа распавядае дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Ляшковіч.**

— У Славакіі ў нас ёсць сталыя партнёры. А пачалася супольная праца з супрацоўніцтва з Дзяржаўнай навуковай бібліятэкай у горадзе Банска Быстрыца. Мы зладзілі там некалькі выставак. Калектыў кніжніцы таксама прывозіў да нас выстаўку «Славацкія сустрэчы Янкі Купалы», што распавядала пра славацкіх пісьменнікаў і журналістаў, з якімі сустракаўся Янка Купала. Гэта Эла Шандар, Гана Грэгарава, Ян Панічан, Янка Алексы — людзі, якія пакінулі адметны след у гісторыі славацкай культуры, літаратуры. Падчас працы ў беларускай сталіцы сябрам нашага музея стаў тагачасны пасол Славакіі ў Беларусі Марыян Сэрватка — аўтар перакладу на славацкую мову вершаў Янкі Купалы «А хто там ідзе?» і «Мая малітва». Ён жа дапамагаў нам арганізаваць выстаўку «Славацкія сустрэчы Янкі Купалы» ў Браціславе — у Міністэрстве культуры Славакіі.

Сёлета спаўняецца 80 год з дня памятнага візіту Янкі Купалы ў Славакію, які адбыўся ў кастрычніку 1935-га. Паездка была арганізавана на афіцыйным узроўні Усесаюзным таварыствам культурных сувязей з замежжам (VOKS) па запрашэнні чэхаславацкага боку. Яшчэ некалькі гадоў таму ў нас у музеі ўзнікла ідэя паўтарыць гэты маршрут, прайсці менавіта сцежкамі Янкі Купалы, а падтрымалі яе Саюз славацкіх пісьменнікаў, Пасольства Беларусі ў Славакіі ды Пасольства Славакіі ў Беларусі, асабіста Марыян Сэрватка — куратар праекта са славацкага боку, — і Ганаровы консул Беларусі ў Славакіі спадар Марыян Мурын.

**— Алена Раманаўна, хто ўваходзіць у склад дэлегацыі?**


Абед у мястэчку Святы Юр.

— Сярод удзельнікаў праекта — старшыня грамадскай назіральнай камісіі пры Міністэрстве культуры па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, пісьменнік Анатоль Бутэвіч; карэспандэнт тэлеканала «АНТ» Аляксандр Мацяс; карэспандэнт Беларускага радыё Наталля Баўкалава; пісьменніца, супрацоўніца рэдакцыі газеты «СБ. Беларусь сегодня» Людміла Рублеўская; галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» Таццяна Сівец; даследчык славацкага перыяду творчасці Янкі Купалы, аўтар кнігі «Янка Купала ў Славакіі» (прэзентацыя якой пройдзе падчас паездкі) Мікола Трус, супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы: загадчык культурна-адукацыйнага аддзела Вольга Пархімовіч і намеснік дырэктара па навуцы Наталля Стрыбульская. Славацкі бок прадстаўляюць Саюз славацкіх пісьменнікаў, газета «Literárny týždenník», Літаратурны і музычны музей Дзяржаўнай навуковай бібліятэкі ў Банскай Быстрыцы, Літаратурны фонд Славацкай Рэспублікі.

**— А мэты вандроўкі?**

— Знаёмства з адным са значных эпізодаў у станаўленні беларуска-славацкіх культурных сувязей як фактам у біяграфіі Янкі Купалы і яго славацкіх калег па творчасці, а таксама ўзаемная прэзентацыя сучаснай беларускай і славацкай культуры і літаратуры ў культурнай супольнасці нашых краін. Варта даведацца, чым сёння жыве славацкая літаратура, а таксама паказаць славакам літаратуру нашай краіны.

**— Якія славацкія мясціны наведаў Янка Купала?**

— Маршрут той пісьменніцка-журналісцкай дэлегацыі прайшоў праз Браціславу, Святы Юр, Модру, Пешчыны, Высокія Татры і пасёлак Ждзяр. Гэтым маршрутам праедзем і мы — свайго роду гістарычная рэканструкцыя Купалавага падарожжа. Афіцыйнае адкрыццё новага праекта адбудзецца ў Браціславе, у клубе Саюза славацкіх пісьменнікаў. Пасля наведаем гарады Святы Юр і Модру, непадалёк ад Браціславы. У нашых планах — Палфіцкі кляштар і піўніца ў Святым Юры, керамічная майстэрня і магіла паэта і грамадскага дзеяча Людавіта Штура, з дня нараджэння якога сёлета спаўняецца 200 гадоў... З'ездзім і ў горад Марцін — месца зараджэння славацкай нацыянальнай мовы і літаратуры. Дарэчы, вялікую цікавасць да новага праекта выказалі мэры згаданых гарадоў.

**— Што яшчэ прадугледжана праграмай паездкі?**

— Экскурсія па Музеі горада Браціславы, наведаем Фарны касцёл Святога Юра XIII ст., у Модры — галерэя знанага славацкага кераміста Ігнацыя Біжмаера, у Пешчынах — Музей Івана Краскі, Музей бальнеалогіі і гарадская бібліятэка, у Марціне — Турчанская галерэя… Запланаваны сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй, дыскусіі. Спадзяёмся, што вандроўка паспрыяе творчаму сяброўству Саюза славацкіх пісьменнікаў з Саюзам пісьменнікаў Беларусі. Магчыма, будзе распачата і рэалізацыя сумесных перакладчыцкіх ды выдавецкіх праектаў.

**Яна ЯВІЧ,**
**здымкі прадастаўлены Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы**


Памятны здымак у мястэчку Святы Юр.


Янка Купала (першы справа) з членамі дэлегацыі на прыстані ракі Дунай. 1935 г.

# Мастацтва між іншым

Год таму ў некалькіх публікацыях «ЛіМа» была звернута ўвага на творчасць пісьменнікаў-аматараў, экзерсісы якіх рэгулярна друкуюцца на старонках выдання. Стаўленне да такіх твораў з боку прафесійнага чытача — рэдактара, крытыка, філолага — збольшага не вельмі спагадлівае. Падчас падрыхтоўкі матэрыялаў існавала спадзяванне, што нехта прапануе больш шырокае бачанне сітуацыі. Між чытачоў газеты такога аўтара не знайшлося. Але нетрывіяльны погляд на справу быў выпадкова знойдзены ў кнізе славацкага пісьменніка Дамініка Татаркі.

Эсэ і артыкулы гэтага аўтара сабраныя ў кнізе «Культура як зносіны» (Браціслава, 1996). На беларускую мову «выбранае з разваг» пераклала Марына Кажарановіч, і ў 2012 г. кніга пабачыла свет у Мінску. Погляды Д. Татаркі на сучасную яму культурную сітуацыю выкладзены ў артыкулах «Свядомасць культуры», «Блуканні па Славакіі», «Дыскусійнае выступленне...», цыкл «Размовы пра культуру» і інш., напісаных пераважна ў 1968 — 1969 гг. Інтэрв'ю з пісьменнікам прадстаўлены ў асобным — пятым — раздзеле кнігі.

Д. Татарка выказаўся супраць успрымання мастацтва як «сэнсу жыцця і культуры» і назваў абсурднай, смешнай і нават згубнай схему, паводле якой прафесіяналы-стваральнікі культуры супрацьпастаўляюцца «спажыўцам». «Раней чалавек не ўсведамляў, што робіць мастацтва, і ствараў яго між іншым. Як сляпая курыца знаходзіць зерне. Мастацтва не развіваецца, толькі творцы нашай новай эпохі так развіліся, што ствараюць мастацтва дзеля мастацтва. (...) Спецыялісты — гэта творцы, творцы мастацтва. Астатнія — гэта спажыўцы. Сэнс іх жыцця — засвойваць мастацтва: глядзець на яго ў галерэях і музеях, хадзіць у кіно, тэатр, на канцэрты. Людзі, якія гэта робяць, называюцца культурнымі». Масавая культура, якая пачала прадукавацца пасля Другой сусветнай вайны, пакідае чалавека ненасычаным і незадаволеным. Адпаведна Д. Татарка робіць выснову: натуральнае жаданне і лёс кожнай асобы — «выяўляцца, дзейнічаць, рухацца, калі ўжо не танчыць; быць не спажыўцом, а творцам культуры. Быць суб'ектам, а не аб'ектам культурнай дзейнасці».




Тэзу пісьменнік падмацоўвае разнастайнымі прыкладамі. «У вясковай карчме кіроўца, які не чытае літаратуру, расказвае вам сваю гісторыю ў такой форме, што будзеце ў захапленні. Літаратурныя тэарэтыкі называюць гэта "памяццю жанру". Сапраўды, кожнаму даводзілася сустрэць выдатнага апавядальніка, які апіша адметнае здарэнне цікавей, чым дасведчаны пісьменнік. Альбо захапляцца ладным маўленнем вясковай бабулі, якая ніколі не чула пра стылістыку, але размаўляе прыгажэй за прафесара-мовазнаўца. Беларускае пісьменства на працягу стагоддзя існавала пад заклікам «чэрпаць з крыніц жывой народнай мовы», і сёння такая амаль няісная магчымасць падаецца вельмі значнай...

Паводле Д. Татаркі, культура — «сістэма камунікатыўных, з'яднальных і сацыябільных знакаў, бясконцага багацця формаў, выяўленняў». Гуманістычная сутнасць культуры адлюстравана ў іншым выслоўі: «культура — гэта акт ушанавання чалавека». Культура — не мэта, а змест жыцця, людзі разам ствараюць і адначасова перажываюць яе.

Здабыткі культуры, якія адпавядаюць сучасным эстэтычным крытэрыям, уважаюцца за мастацтва, але для славацкага пісьменніка яно мае меншае значэнне. Бо нацыянальная культура яднае народ, а мастацтва — плён працы адзінкавых адораных творцаў. Беларускі чытач можа здзівіцца, што адукаваны пісьменнік ставіць размову мужчын у шынку вышэй за айчынную белетрыстыку, але менавіта так Д. Татарка падкрэслівае значнасць культуры зносін у яе арганічных нацыянальных праявах. Для Д. Татаркі як грамадскага дзеяча, заклапочанага лёсам народа, культура — сфера, вартая большага вывучэння і вылучэння, чым «мастацтва дзеля мастацтва», бо культура ёсць «адзінай моцай у народзе і дзяржаве».

Недасканалы мастацкі тэкст можа выклікаць засмучэнне ў крытыка ці літаратуразнаўцы — але для культуролага ён мае безумоўную значнасць як факт звароту да пэўнай культурнай традыцыі, як праява натуральнай патрэбы асобы ў творчасці і самавыяўленні. Мастацкі твор — гэта заўсёды камунікатыўны акт, дыялог аўтара з класікамі і сучаснікамі. Нават бяскрылы верш можна ўспрымаць не як *перайманне*, а як *прыманне* ідэй і мастацкіх стратэгій, даступных і актуальных для шырокага кола літаратараў. Праз творчасць чалавек сцвярджае сваю ўключанасць у пэўную культурную прастору, а культура «была і ёсць дзейсным сродкам, які вызваляе народную энергію, грамадскую ініцыятыву і актыўнасць».

Кніга «Культура як зносіны» — магчымасць не толькі далучыцца да інтэлектуальных разваг, але і пазнаёміцца са Славакіяй. Славакія і Беларусь шмат чым падобныя, але наша краіна апынулася ў менш спрыяльных гістарычных абставінах. Здаецца, што ў артыкулах Д. Татаркі, напісаных напрыканцы 60-х гадоў, апісваюцца праблемы, актуальныя і для тагачаснай беларускай культурнай прасторы. Актуальныя, але ў належнай ступені не асэнсаваныя. Кніга славацкага пісьменніка сведчыць пра выключную значнасць агульнага аналізу культурнай сітуацыі, без якога немагчыма вывучэнне яе асобных складнікаў.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

**Даведка «ЛіМа»**

Дамінік Татарка (1913 — 1989) — вядомы славацкі пісьменнік і публіцыст. Скончыў філасофскі факультэт Карлавага ўніверсітэта ў Празе, у 1938 — 1939 вучыўся ў Сарбоне. Падчас Другой сусветнай вайны далучыўся да камуністычнай партыі, браў удзел у Славацкім нацыянальным паўстанні. Пасля 1948 г. далучыўся да будаўніцтва сацыялістычнага грамадства, аднак ужо ў сярэдзіне 1950-х гг. пачаў аддаляцца ад камуністычных ідэй.

# Дыягназ — анемія

Кніга Таццяны Барысік «Жанчына і леапард» — вынік пятнаццацігадовага назірання аўтаркі за паўсядзённым жыццём правінцыі. Героі апавяданняў блізкія і пазнавальныя чытачу, бо ў кожным раёне знойдзецца падобная вёска з падобнымі насельнікамі, а нехта, магчыма, пазнае сябе. Тыпізацыя як спосаб рэалістычнага паказу жыцця ў дадзеным выпадку яскрава дэманструе, чым жыве сучасная правінцыя і пра што мараць простыя беларусы.

Галоўным аб'ектам мастацкага назірання аўтаркі стала вёска. Большасць апавяданняў прысвечана адлюстраванню менавіта вясковага жыцця. Горад, мястэчка (Магілёў і Бабруйск) паказаныя апасродкавана, скрозь прызму лёсаў герояў і не маюць дакладна выпісанага вобраза.

«Суцэльная анемія» — агалошвае дыягназ сучаснаму правінцыйнаму ладу Марына — гераіня апавядання «Хроніка маладосці». Адны змагаюцца з гэтай хваробай, а для іншых такая сітуацыя — норма. У змагароў (умоўна назавём іх так) не заўжды атрымліваецца супрацьстаяць уплыву шэрасці, абмежаванасці густаў і інтарэсаў свайго асяроддзя. Таму і становяцца ахвярай «маралі» грамады, бо адмаўляюцца ад сваіх мар на карысць «наезджанай каляіны». Большасць з такіх — настаўніцы, здольныя да літаратурнай творчасці, або спрацаваныя жанчыны, якія за маскай знешняй паспяховасці хаваюць горыч ад няспраўджаных мар. Нехта абірае працу ў бакалейнай лаўцы (маючы вышэйшую адукацыю і перспектыву ў кар'ерным росце), каб захаваць чыстым і спакойным сумленне. А камусьці не хапае моцы пайсці насуперак грамадскай думцы аб «норме» паспяховага, удалага жыцця, праз што ветэран вытворчасці заканчвае жыццё ў статусе п'яніцы са стажам.

Гераіня апавядання «Па наезджанай каляіне» — маладая вясковая настаўніца з нядобранадзейнай сям'і — усё свядомае жыццё намагалася выбіцца ў людзі, даказаць аднавяскоўцам сваю «нармальнасць». А што рабіць, калі пад «нармальнасцю» разумеюць толькі працу, гаспадарку, адпачынак на канапе за тэлевізарам або ў сваяцкай бяседзе? Карысці ад кніг няма ніякай. Літаратурная творчасць — справа смаркатых дзяўчат, а не сямейных жанчын. Куды падзецца, калі муж ушчувае за «свавольства», яго сваякі поедам ядуць за нечуваную дур? Гераіня закапвае талент як мага глыбей, бо рызыкуе застацца адна з двума дзецьмі на мізэрным настаўніцкім заробку ў непрыветнай матчынай хаце. Эмансіпаваная гарадская жанчына спакавала б чамадан, забрала дзяцей ды адсудзіла ў мужа маёмасць. А вось вясковай, з менталітэтам «затурканай» жанчыне такі асобасны подзвіг не па сілу: светапогляд і выхаванне не тыя. «Чаго Бога гнявіць — цяперашняе маё існаванне не такое ўжо і кепскае…» — падводзіць вынік споведзі апавядальніца.

«…Гордасць праізводства, душа калектыву, брыгадзір аператараў», вечная Ленка Багуненка для мясцовага начальства — гераіня наступнага апавядання — «Жанчына і леапард». За маскай перадавіка (збыткоўнай вытворчасці) хаваецца спрацаваная, хворая жанчына перадпенсійнага веку. Ганаровы статус, зароблены хатняй паляндвічкай, вызваляе яе ад цяжкай, бруднай працы на прадпрыемстве, затое ёсць час на ўпарадкаванне ўласнай гаспадаркі. Тэлевізар — увесь яе адпачынак. Юнацкія планы не спраўдзіліся, зацягнуў побыт, нелюбімая праца. Так і жыве «душа калектыву» ў паўсядзённых клопатах з запаветнай марай — стаць у будучым жыцці леапардам. Бо леапарды — жывёлы незалежныя: не збіваюцца ў зграю, як драпежнікі, і не хаваюцца ў статку, як ахвяры.

На старонках кнігі абмалёўваецца нямала анекдатычных выпадкаў. Смешна і адначасова горка робіцца ад прачытанага. Пісьменніца лаканічна, але глыбока і змястоўна выпісвае партрэты герояў, паказваючы тонкія грані свядомасці, у якой змагаюцца асабістае і калектыўнае бачанне «нармальнага жыцця». Дзякуючы выкарыстанню гутарковай лексікі, аповеду ад першай асобы, унутраных дыялогаў, ствараецца эфект непасрэднай і шчырай размовы чытача з апавядальнікам. Фактаграфічны падыход аўтаркі ў падачы матэрыялу дапамагае з лёгкасцю ўявіць герояў, мясціны і абставіны апісаных сюжэтаў. Эпісталярная форма аповеду (ліст у рэдакцыю) у спалучэнні з сарказмам дазваляе паказаць сапраўды страшныя, ганебныя бакі жыцця вясковай сям'і не з маралізатарскай пазіцыі пісьменніка, а знутры, вачыма такой самай сялянкі (апавяданне «Жадаю вам»). І зусім не смешна пасля слоў: «Бо менавіта на такіх людзях і трымаецца наша вёска».

Вясковая тэматыка адна з цэнтральных у беларускай літаратуры. Аб праблеме вымірання неперспектыўных населеных пунктаў пісьменнікі пачалі біць у званы дзесяцігоддзі таму. Карані гэтага шукалі ў калгасна-саўгаснай сістэме, вынішчэнні культуры гаспадарання на зямлі, разбурэнні традыцыйных каштоўнасцей, на якіх стагоддзямі трымалася Беларусь. Аднак надзея на яе адраджэнне гучала ў мастацкіх творах. Узгадайма праграмны твор — п'есу Дударава «Вечар» (1983). Мульцік, Ганна, Гастрыт — кожны з іх увасабляе пэўную філасофію, разважае над вынікамі, дасягненнямі за доўгія гады жыцця. Яны спадзяюцца на вяртанне моладзі да сваіх каранёў. І, нібы пачуўшы покліч старых, на дарозе паказваецца цень чалавека, які ішоў у вёску. А цяпер параўнайма з імі старых з апавяданняў Таццяны Барысік: «напаўжывыя» людзі існуюць без усялякай жыццёвай філасофіі ды роздумаў. За маладым пакаленнем — хворым на алкагалізм і сацыяльную мімікрыю — будучыні не бачыцца. І гэта не два розныя погляды на адну праблему, а мастацкае назіранне за дынамікай падзей: хто дажываў у неперспектыўнай вёсцы на пачатку 1980-х і дажывае цяпер, на мяжы тысячагоддзяў.




На прэзентацыі Таццяна Барысік адзначыла: «Мая кніга — як праца фатографа судмедэкспертызы. Кожны можа зірнуць на нешта, але не кожны выглядзіць важныя дэталі». Аўтарка не выказвае прагнозаў адносна далейшага лёсу беларускай вёскі, не дае парад, не прапаноўвае шляхоў вырашэння праблемы «суцэльнай анеміі». Гэта скіроўвае да аналізу сітуацыі і пошуку адказаў на пытанні.

**Віялета ВАШЧЫЛІНА**

# 1935/2015: ВЯРТАННЕ

**Праца Міколы Труса «Янка Купала ў Славакіі» (2012) — адна з самых цікавых манаграфій апошняга часу. Падрабязнае апісанне вандроўкі савецкай дэлегацыі ў Славакію ў 1935 г. — магчымасць распавесці пра культурную і палітычную сітуацыю ў абедзвюх краінах, а таксама прадставіць Купалу не ў звыклым вобразе Песняра, а як гістарычную асобу, пра якую захавалася нямала згадак. Мікола Трус — кандыдат філалагічных навук, загадчык кафедры беларускай філалогіі Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта, намеснік старшыні таварыства дружбы «Беларусь — Славакія». Размова з даследчыкам прысвечана яго навуковай дзейнасці, а таксама беларуска-славацкім культурным сувязям.**

**— Мікалай Валянцінавіч, чым тлумачыцца ваша цікавасць да Славакіі, як пачалося гэтае захапленне?**




— Захопленасць Славакіяй, а таксама даследаванне беларуска-славацкіх сувязей звязана з прафесійнай і навуковай дзейнасцю. Спачатку вабіла тое, наколькі падобныя гістарычныя лёсы нашых народаў. Часам іх называюць меншымі, а мне даспадобы слова мінарытарныя — як найбольш паліткарэктнае з існуючых сёння гісторыка-культурных вызначэнняў.

Варта было наведаць краіну, спраўдзіць адчуванні, атрыманыя з пісьмовых крыніц, каб сімпатыя пераўтварылася ў трывалы грунт навуковых росшукаў. Адзначым, што беларуска-славацкія сувязі ўзбагачаюць і вывучаюць загадчык кафедры славянскіх літаратур БДУ прафесар Іван Чарота, дацэнт Алена Вострыкава, дацэнт Вікторыя Ляшук, паэт і даследчык Сяргей Панізнік ды іншыя.

**— Прайшло ўжо тры гады, як выйшла ваша манаграфія «Янка Купала ў Славакіі». Як паставілася да гэтага выдання навуковая грамадскасць?**

— Паводле былога пасла Славакіі ў Беларусі Марыяна Сэрваткі, манаграфія «Янка Купала ў Славакіі» спарадзіла своеасаблівую ланцуговую рэакцыю. Яна стала адмысловым зыходным пунктам для шэрагу культурных славацка-беларускіх праектаў, у рэалізацыі якіх з нашага боку рэй вядзе Дзяржаўны літаратурны музей Я. Купалы на чале з дырэктарам Аленай Ляшковіч.

З вялікай прыемнасцю хочацца засведчыць, што ў асобе шаноўнага Марыяна Сэрваткі мы займелі яшчэ аднаго ўплывовага сябра нашай краіны за мяжой, які паслядоўна і плённа рупіцца пра развіццё славацка-беларускіх культурных сувязей.

Манаграфія выклікала даволі шырокі рэзананс у навуковых і культурніцкіх колах Беларусі і Славакіі. Ухвальныя словы на карысць яе зместу і фармату падачы матэрыялу прагучалі на старонках многіх беларускіх газет. Інфармацыйна-азнаямленчых допісаў у айчынных і славацкіх СМІ набярэцца не менш за паўтара дзясятка. У Славакіі станоўчая рэцэнзія на беларускае выданне была апублікаваная ў прэстыжным навуковым славістычным часопісе «Slavica Slovaca» (І. Сліўкова). Карыстаючыся нагодай, хачу падзякаваць калегам за ўвагу да кнігі, добрыя словы і каштоўныя парады.

**— У манаграфіі вы адкрылі шэраг невядомых старонак у гісторыі беларуска-славацкіх культурных сувязей. Якія пытанні ў гэтым кірунку даследаванняў бачацца вам асабліва актуальнымі?**

— Варта прызнаць, што сярод традыцыйных і часта ўжывальных вызначэнняў нацыянальнай прысутнасці ў Еўропе і свеце са складнікам узаема- (сувязі, дачыненні, уплывы і г. д.) не хапае выходнага, базіснага, немудрагелістага па сваім гучанні — узаемаведанне. Напрыклад, у Славакіі Янка Купала рэпрэзентаваны ледзь не выключна ў анталогіях савецкай паэзіі, даведніках — і абсалютна ў духу свайго часу. Сёння можам сказаць, што вельмі тэндэнцыйна, — як тыповы савецкі паэт, які ўсхваляў поспехі сацыялістычнага будаўніцтва і калектывізацыі. Класіка славацкай літаратуры — падмурак нацыянальнай ідэнтычнасці — прадстаўлена ў Беларусі, трэба пры-знаць, таксама даволі слаба. І гэта не выключэнне, а тыповая і агульная праблема сённяшняй недастатковасці тых праяў узаемаведання, якія звыкла завуцца мастамі дружбы.

Прысутнасць Янкі Купалы ў кастрычніку 1935 года ў Славакіі ў складзе дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў дазваляе весці гаворку пра славацкую літаратуру і культуру, прадстаўленую ў канкрэтных імёнах і фактах, у абсалютна новым ключы. Гэта ўжо не абстрагаваны экскурс здалёк у гісторыю іншага народа, а канцэптуальна новы алгарытм разгляду — ад факта; асвятленне канкрэтнага знаёмства, замацаванага поціскам рукі класіка беларускай літаратуры. Пры гэтым гаворка пра некаторых славацкіх пісьменнікаў і літаратурную сітуацыю сярэдзіны 1930-х гадоў набывае адмысловую сяброўскую цеплыню, а паўныя тэмы міжнацыянальных адносін — жыццёвую пульсацыю, надзённасць. На прыкладзе візіту 1935 года мы маем справу з народнай дыпламатыяй — дзейснай сілай умацавання культурных сувязей.

**— Як была ўспрынятая ваша праца ў Славакіі?**

— Ведаеце, купалаўскія паэтычныя словы, звернутыя да Маладой Беларусі, — займаць свой «пачэсны пасад між народамі» — застаюцца істотнымі і сёння. Але наш час вельмі дынамічны і вельмі прагматычны.

Дзялянка, на якой я даўно працую, — гэта выкладчыцкая справа і літаратуразнаўства. Манаграфія «Янка Купала ў Славакіі» стваралася па ўласнай ініцыятыве, на энтузіязме, выдавалася за ўласны кошт. Яе выхад у 2012-м, юбілейным купалаўскім, годзе для мяне асабіста быў вельмі важным. Такім чынам аб'ектыўна сведчылася, што з майго сціплага боку беларуска-славацкі кірунак гісторыка-літаратурных даследаванняў — не прыватная дэкларацыя аб намерах, а сур'ёзная праца, мяркуючы па рэцэнзіях, — даволі важкая і цікавая.

У манаграфіі рознабакова асветлена купалаўская паездка па Славакіі: прадстаўлены невядомыя здымкі, аўтографы беларускага песняра і прадстаўнікоў савецкай дэлегацыі, сабраны і абагулены матэрыялы тагачаснага славацкага друку. У выніку нязмушана вымаляваўся адмысловы купалаўскі турыстычны маршрут: Браціслава — Святы Юр — Модра — Пешцяны — Высокія Татры. Для Славакіі, вядомай сваімі курортамі і камфортным адпачынкам, сёння гэта таксама немалаважна.


PROLETÁRI SVETA SPOJTE SA!

ľudový denník

CENA 40 hal.

Trochu zemepisu

Сердечный привет товарищам советским журналистам и писателям

SLOVÁK

Cena 50 hal.

Na margo cesty sovietskych novinárov po Slovensku

SLOVENSKÝ DEN...

Slovenský národ tu je, žije a žiť bude.

Minister Machník o obrane štátu.

Hroziace nebezpečenstvo svetovej vojny sa zväčšuje

Pred novou italskou ofenzívou?

Obe strany pripravené na veľké vojnové akcie

*Славацкія газеты 1935 года з матэрыяламі пра візіт савецкіх журналістаў і пісьменнікаў.*




*Маршрут вандроўкі 1935 г.*

> *«Ганна Караваева ва ўспамінах пра Янку Купалу адзначала, што падчас гэтай паездкі ён быў вельмі засмучаны, выглядаў надта засяроджана. Такі стан паэта яна тлумачыла трывогай перад фашысцкай пагрозай, той атмасферай напружанасці і чакання, якой поўнілася грамадства ўсіх еўрапейскіх краін».*
>
> *Янка Купала ў Славакіі / Мікола Трус — навук. рэд. І. А. Чарота. — Мн. : Рэдакцыя часопіса «Роднае слова», 2012. — 176 с.: іл.*

Для славацкіх навукоўцаў усходнеславянскі вектар гісторыі міжкультурных сувязей вельмі добра распрацаваны і закранае найперш рускую і ўкраінскую літаратурную класіку. Часта ён абапіраецца на непасрэдныя знаёмствы дзеячаў нацыянальнай культуры з выбітнымі замежнымі пісьменнікамі. Напрыклад, лекарам і сакратаром Льва Талстога быў славак Душан Макавіцкі.

Трэба прызнаць, што ў гэтым плане пачэсныя, «пасадныя» месцы ўжо даўно заняты. Але новы віток еўрапейскай гісторыі дае ўнікальныя магчымасці, якімі варта скарыстацца. У Славакіі, у Беларусі, у іншых краінах апошніх дзесяцігоддзяў ідуць актыўныя працэсы новага прачытання сваёй культурнай спадчыны — на хвалі вяртання імёнаў, твораў, вызначэння іх месца ў нацыянальнай і сусветнай культурнай парадыгме. Зараз магчыма і неабходна не толькі сведчыць, але і браць удзел у асэнсаванні аб'ёмістага рухомага матэрыялу, яго мадэрновай «фармоўцы», якая ў нашым выпадку звязана з міжнароднымі культурнымі дачыненнямі.

**— Ці не было жадання даследаваць іншыя вандроўкі паэта за мяжу?**

— Вядома, Янка Купала наведваў розныя краіны: толькі ў Чэхаславакіі ён пабываў тройчы (1925, 1927, 1935). Сёння купалазнаўства — сцверджаная галіна літаратуразнаўства, усе візіты класіка літаратуры зафіксаваны і збольшага апісаны, не была пад грыфам сакрэтнасці і яго вандроўка 1935 года. Справа ў іншым. Я імкнуўся паказаць, што вядомыя тэмы не вычарпаны як радовішча, наадварот, сёння варта і магчыма прадставіць вядомыя падзеі куды больш падрабязна, дыскусійна, дынамічна — і гэтым ажывіць, надаць новы імпульс нашаму бачанню мінулага, асабліва звязанаму з умацаваннем сваёй культурнай прысутнасці ў свеце. Мной створаны своеасаблівы даследчыцкі гісторыка-культурны прэцэдэнт. Гэта не падвядзенне рысы, а пачатак, запрашэнне да працы з замежнымі архівамі, якія, нягледзячы на пакручастую гісторыю XX стагоддзя, няблага захаваліся. Манаполій на тэмы існаваць не можа. Мяркую, знойдуцца аўтары, якія, улічыўшы мой вопыт, асветляць Купалавы замежныя падарожжы больш дасканала і арыгінальна. Хочацца спадзявацца, што гэта будуць не толькі прыватныя ініцыятывы энтузіястаў ад навукі…

**Янка НАТАВЕЦ**






# Дзверы ў духоўную культуру

**У Алматы падведзеныя вынікі XII Міжнароднага конкурсу «Мастацтва кнігі» краін — удзельніц СНД. Сёлета на конкурсе прадстаўлена 117 выданняў з Азербайджана, Арменіі, Беларусі, Грузіі, Казахстана, Кыргызстана, Расіі, Туркменістана і Эстоніі. Кнігавыдаўцы Беларусі, якія ўдзельнічалі ў конкурсе ўжо дванаццаты раз, прадставілі на суд міжнароднага журы 23 кнігі павышанай якасці па ўсіх заяўленых намінацыях. Адметна, што 12 з іх атрымалі дыпломы конкурсу.**

*Знаёмства журы з выданнямі, прадстаўленымі на XII Міжнародным конкурсе «Мастацтва кнігі» краін — удзельніц СНД.*

Сёлета на рахунку беларускіх выдаўцоў — перамога ў намінацыі «Гран-пры» з кнігай «Беларусь замкавая», што пабачыла свет у выдавецтве «Бяловагруп» і была надрукаваная на Паліграфкамбінаце імя Якуба Коласа; пяць дыпломаў першай ступені, пяць дыпломаў другой ступені і спецыяльны дыплом. У ліку лаўрэатаў конкурсу — кнігі Выдавецкага дома «Звязда»: у намінацыі «Дыялог культур» дыплом І ступені здабыў праект «Францыск Скарына на мовах народаў свету», а ў намінацыі «Арт-кніга» дыплом ІІ ступені прысуджаны рабоце Наталлі Шаранговіч «Уладзімір Слабодчыкаў. Скульптура».

Але пазнаёміцца з вынікамі конкурсу — адно, а зазірнуць «за кулісы» галасавання журы — зусім іншая справа. У міжнародным журы конкурсу «Мастацтва кнігі» краін — удзельніц СНД сёлета традыцыйна былі і прадстаўнікі Беларусі. Гэта кансультант упраўлення выдавецкай дзейнасці і гандлю Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь Валерый Рагалевіч, генеральны дырэктар ТАА «Макбел» Дзмітрый Макараў і мастак, дызайнер кніг, вядучы мастацкі рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Вячаслаў Паўлавец. Да яго і звярнулася карэспандэнт «ЛіМа», каб больш даведацца пра конкурс.

**— Чым запомнілася мерапрыемства?**

— Урачыста-хвалюючай атмасферай. Кожная кніга, прадстаўленая краінамі-ўдзельніцамі СНД, — дзверы ў гісторыю народа, яго духоўную культуру. Перапляценне культур і традыцый сабраных разам краін ззяе і пераліваецца колерамі вясёлкі, якія з асобных фрагментаў збіраюцца разам у цэласную карціну свету.

**— Як вы ацэньваеце ўзровень прадстаўленых на конкурсе кніг?**

— Журы адзначыла значны рост выдавецка-паліграфічнага комплексу. Калі раней заўважнымі лідарамі высокай кніжнай культуры былі Расія, Беларусь і Украіна, то цяпер значна «падцягнуліся» краіны Сярэдняй Азіі і Закаўказзя.

— Якія тэндэнцыі выдання і афармлення кніг вы бачыце?

— Будучыня кніг — у сацыяльнай значнасці, бездакорнай паліграфіі, якасных матэрыялах, арыгінальным дызайне. Толькі ў сукупнасці ўкладзеных у яе духоўных і матэрыяльных кампанентаў кніга набывае каштоўнасць. Несумненна, моцны канкурэнт папяровых выданняў — электронныя сродкі камунікацыі. Яны больш аператыўныя па хуткасці перадачы інфармацыі, але толькі кніга здольная якасна прадставіць і захаваць вечныя духоўныя каштоўнасці, якія не залежаць ад кошту нафты і кан'юнктуры рынку. Таму столькі ўвагі надаецца Міждзяржаўным саветам па супрацоўніцтве ў галіне перыядычнага друку, кнігавыдання, кнігараспаўсюджання і паліграфіі менавіта мастацтву кнігі.

**— Якія характэрныя рысы айчынных кніг?**

— Іх заўсёды вылучае духоўнасць, мастацкая вобразнасць, эмацыянальнасць. У дызайне нашых выданняў назіраецца творчае стаўленне да тыпаграфікі — мастацтва шрыфту. Менавіта старонкі кнігі, а не манітор дазваляюць ацаніць умела падабраную гарнітуру, памер шрыфту, афармленне тытульнага ліста і вокладкі.

**— Ці складана было выбраць пераможцу?**

— Так, складана. Удалыя кнігі атрымліваюць максімальную колькасць балаў, таму пераможца можа быць не адзін, а некалькі. На мой погляд, такая форма больш правільная, чым правядзенне галасавання ў другім туры.

**— Магчыма, былі іншыя кнігі, якія запомніліся, але не ўвайшлі ў лік пераможцаў?**

— Кожная кніга на конкурсе цікавая і заслугоўвае асаблівай увагі. Асабіста мне запомнілася кніга армянскага выдавецтва з фотаздымкамі помнікаў гісторыі і культуры Арменіі, а таксама рэпрадукцыямі твораў жывапісу і графікі, з выявамі гэтых помнікаў.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Імпрэзы*

# Слова і знакі

**Прэзентацыя серыі кніг «Светлыя знакі: паэты Кітая» Выдавецкага дома «Звязда» адбылася ў сталічным «Кніжным салоне». У серыі, над афармленнем якой працаваў мастак Анатоль Званароў, прадстаўлены беларускамоўныя пераклады вершаў чатырох паэтаў Паднябеснай: Ван Вэя, Ду Фу, Лі Бо ды Ай Ціна.**

Фота Анатоля Клешчука

*Навум Гальпяровіч падчас прэзентацыі.*

Дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч распавёў, што серыя «Светлыя знакі: паэты Кітая» ўжо прэзентавалася ў Маскве, Ашхабадзе, Санкт-Пецярбургу і ў самой Паднябеснай.

У свой час паэтычнымі перакладамі з кітайскай мовы займаліся такія майстры беларускага слова, як Уладзімір Дубоўка, Мікола Аўрамчык, Сяргей Дзяргай. Іх пераклады таксама з'явяцца ў гэтай серыі.

Над перакладамі, якія ўвайшлі ў кнігі серыі, працавалі Навум Гальпяровіч, Таццяна Сівец, Рагнед Малахоўскі, адным з укладальнікаў выступіла загадчык аддзела кнігавыдання Выдавецкага дома «Звязда» Вольга Аляксеева. Пры стварэнні зборнікаў перакладаў Ван Вэя, Ду Фу і Лі Бо былі выкарыстаны пераклады з кнігі «Пад крыламі Дракона. Сто паэтаў Кітая», зробленыя Міколам Мятліцкім. Шмат працаваў над перастварэннем лірыкі гэтых паэтаў і Рыгор Барадулін.

Навум Гальпяровіч, які ўжо двойчы пабываў у Кітаі, падкрэсліў: падчас працы над перакладам імкнуўся зразумець псіхалогію, душэўны склад аўтара арыгінала, бо паэт у Кітаі ўспрымаецца як мастак-мудрэц: ён прамаўляе ісціны, да якіх прыслухоўваецца народ, а ў кожным радку — цэласная думка.

Літаратуразнаўца Міхась Кенька, аўтар артыкула «Гісторыя аднаго перакладу», змешчанага на старонках «ЛіМа» напярэдадні XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, упэўнены: новыя пакаленні перакладчыкаў не толькі паспрыяюць захаванню арыгінальнай кітайскай традыцыі, але будуць валодаць глыбокімі ведамі ў галіне гісторыі і культуры Кітая. Верш, на яго думку, павінен гучаць так, каб успрымацца непасрэдна ў маўленчым кантэксце. Ды і пераклад, створаны з душою, будзе больш дасканалым.

Паводле Таццяны Сівец, кітайскі верш — гэта спалучэнне тэксту, глыбіннага сэнсу і каліграфічага малюнка. А яшчэ вельмі радуе, што сёння ёсць магчымасць перастварыць не толькі класіку, старадаўнія творы, але і сучасную паэзію Кітая. І чым больш будзе рабіцца такіх перакладаў, тым шырэйшай будзе і айчынная літаратура.

Рэдактар аддзела паэзіі часопіса «Полымя» Юлія Алейчанка заўважыла: кітайцы, як і беларусы, цярплівыя і разважлівыя. Сапраўдным адкрыццём для яе стала блізкасць кітайскай паэзіі да беларускай свядомасці: з філасофіяй зямлі, вады, прасторы тут суіснуе паэзія змагання за лепшую долю.

Вольга Аляксеева ўпэўнена: кожны паэтычны радок кніг серыі «Светлыя знакі» — крыніца дасканаласці, мілагучнасці і глыбіннай вобразнасці багатага свету кітайскай паэзіі.

**Яна ЯВІЧ**

# Да Святла!..



**Сонца і святло, жаданне ўбачыць бясконцасць прасторы, зазірнуць у далягляды, адчуць вартасці штодзённага пошуку — вось тое шматграннае мастацкае аздабленне, якое паўстае перад намі ў знаёмстве з новымі перакладамі. Іх дорыць свайму чытачу «Літаратура і мастацтва» сёння. Таццяна Сівец, адолеўшы прыступкі па дарозе да вяршынь славацкай паэзіі, множыць даўнія і добрыя традыцыі беларуска-славацкага літаратурнага пабрацімства. Ян Тазберык, Штэфан Цыфра, Міраслаў Белік і іншыя паэты, прадстаўленыя праз беларускае слова, гавораць пра вечныя каштоўнасці. Яны ведаюць, што «мякка сцеле / Бог нашы пасцелі» (Петэр Мішак), таму цвёрда перакананыя ў велізарных духоўных магчымасцях чалавека і грамадства. Яны, паэты з Божай Ласкі, вераць у святло, вераць у доўгія мільёны гадоў сустрэч чалавека з Сонцам. І гэта робіць іх вершаваныя радкі аптымістычным грунтам для сталення і спеласці нашых думак, для рашучасці нашай у самых розных добрых і светлых памкненнях. Дзякуй, Паэзія! Дзякуй, шчодры мастацкі свет славакаў, таленавіта адлюстраваны Таццянай Сівец!**

**Мікола РАЎНАПОЛЬСКІ**

**Міраслаў БЕЛІК**

## Санет да Арфея

**Іосіфу Бродскаму**

*Настаўнік, не ведаю, ці адшукалі спакой Вы*
*там, дзе Арфей, Эўрыдыка, дзе Божая амбасада.*
*Я Вам лісты адпраўляў, але лепш данясу самастойна,*
*бо Вы ж заняты — у вас, можа, дом та— з садам.*
*Дзе Вы, Настаўнік, куды пракладаеце мост свой?*
*«Мост па-над безданню» (як тут не азірнуцца?)…*
*Калі табе дзевяноста, усё надзвычайна проста —*
*і можна вяртацца,*
*ды лепей ужо — не вярнуцца…*
*Тое калісьці было ўжо, здаецца, з Рыльке:*
*«Праставалосая, як учарашні дождж непатрэбная,*
*сталася маім коранем»…*
*Я азіраюся — на Арфея і (што за прыклад!)…*
*Уздыхаю пакорліва,*
*ды вяртаюся — да Эўрыдыкі!*

**Борыс БРЭНДЗА**

## Бірузовая панна

*Бірузовая панна, мой храм на вяршыні поўначы,*
*я спяшаю да Вас, пра самога сябе не помнячы.*
*Бірузовая панна, няўжо гэта праўда Вы?*
*Галава мая ап'янела ад сінявы.*

*З вежы чароўнай махні залатым крылом,*
*маланкаю зыркай маё блаславі чало.*
*Ты ўсіх саграваеш, ты свеціш — на шэсць бакоў,*
*дык адамкні мне браму, не будзь такой…*

*Каб самоты пазбыцца — зараз і назаўжды, —*
*я прашу: «Каханая, падары мне ўздых!»*
*Прашапчы так соладка: «Ты — адзін».*
*Я трымацьму цябе ў далонях, а ты — глядзі.*

*У вачох тваіх раны, і цемра, і ноч, і боль.*
*Але я не хачу пра боль гаварыць з табой.*
*Тым, хто не ўмее лётаць, ты крылы даеш на час.*
*Не выракай на здзекі гэтых няшчасных— нас.*

*Ты вышываеш сонца на стромах свінцовых сцен,*
*бо табе невядома, калі распачнецца дзень.*
*Лашчыць твае абрысы хочацца да зары.*
*Бірузовая панна, са мною пагавары.*
*Бірузовая чараўніца мая, мая пляшка абсэнту,*
*ведаю, нам з табою заўжды пашэнціць…*

**Петэр МІШАК**

## Што з таго

*Ведаеш, напачатку*
*яшчэ не было*
*размовы —*
*ці то пра рэчы,*
*ці то пра словы.*

*Дык з чаго, васпане,*
*ўсё пачалося з намі?*

*Бачыш,*
*як мякка сцеле*
*Бог нашы пасцелі.*

*Толькі як змружыш*
*вочы*
*хаця б аднойчы,*
*вось тады і пачнецца*
*сапраўдная*
*барацьба.*

*Чуеш,*
*уночы тутака — цішыня.*
*Радыё заціхае.*

*І пахне дымам.*

*На гэткай адлегласці*
*цяжка кагосьці*
*пазнаць.*

*А тым болей*
*чакаць на цябе да раніцы.*
*Мы ж, крый божа, тут*
*не святыя.*
*Мы проста сядзім…*

*І ціха*
*чакаем*
*знак…*

**Штэфан ЦЫФРА**

## З кімсьці сустрэцца

### 1

*Хтосьці жыве*
*як паперчына*
*на вятрыску.*

*Ён жыве,*

*а іншыя за ім сочаць,*
*цвеляць яго балячкі*
*і ўсё чакаюць,*

*калі ж ён*
*падохне.*

*Ды ён смяецца*
*над шэраю іх*
*аблогай*

*і ўсё паўтарае:*

*«Я вам нічога*
*не вінны».*

### 2

*Іншы*
*сам сябе*
*цягне на карку*
*быццам звон,*
*што чакае волі,*
*А калі ўжо зусім няўсцерп,*
*кленчыць, жагнаецца.*

*Хтосьці*
*асудзіць яго,*
*скажа: «Вось дурань…»*

*А іншыя зробяць выгляд,*
*нібыта і не было яго,*
*ці прамовяць:*
*«…Дружа, дапамажы сабе сам,*
*і Гасподзь табе дапаможа!»*

### 3

*А хтосьці*
*цалкам інакшы*
*цешыцца малым,*
*з самага ранку*
*ў ім расцвітае радасць.*

*Хоць яго доля*
*горкая, як атрута,*
*хоць яго паліць*
*мацней за старую язву,*
*што ўночы прачнецца раптам.*

*Заўжды,*
*калі сустракаю*
*некага,*
*трохі падобнага*
*да яго,*
*пазнаю па ўсмешцы,*
*і нават калі балюча,*
*хіба што вады*
*папрасіць.*

*А больш і не знаеш,*
*чым яму дапамагчы.*

*Крыж яго цяжкі*
*ніхто не бачыць.*

**Ян ТАЗБЕРЫК**

## Што далей?

*Гаварыць пра былое і заўтра —*
*я дужа ахвочы.*
*Дзесяць страхаў маіх*
*бессаромна ўзіраюцца ў вочы.*
*Я пагуляю ў хованкі*
*сам з сабою.*

*Смерць не палохае болей —*
*няхай яна мяне абыходзіць.*
*Да світання шукаю сноў*
*па пакоях стылых.*
*У тваёй галаве да раніцы*
*стану пылам.*



*Сабор св. Элізабэт у Кошыцэ.*

**Пераклад са славацкай мовы Таццяны СІВЕЦ**

### Міраслаў ВАЛЕК

## ***

*Пад зоркамі*
*дрэвы ў прысадах нядрэмных*
*вагаліся п'яна.*
*Ішоў і не ведаў,*
*куды я выходжу з туману.*
*Пакланіўшыся ўсім бульварам,*
*я на Кіеўскай недзе*
*прытуліўся гарачым тварам*
*да халоднай світальнае медзі,*
*слухаў дальніх сірэн арыі,*
*як машына пасля аварыі.*
*І на шчацэ маёй (прыкрая драбяза!)*
*вулічным ліхтаром трымцела сляза.*
*І стала мне сорамна — гула галава —*
*за прыступ тугі*
*сумленне карала, як кат.*
*Так і знайшла мяне*
*ранішняя Масква,*
*як скрутак,*
*у бюро знаходак і страт.*

## Дождж

*У купал вежы звоніць уладарна,*
*рака на вуха нешта мне крычыць.*
*З нябёс на горад дзень зваліўся хмарны,*
*дажджыць, цурчыць…*
*Якія думкі ў гэткі час прыходзяць?*

*Аб тым, як незагойны сум наводзіць*
*працёртая дзіра на рукаве,*
*што нешта цісне на душы, як камень,*
*што хтосьці ўжо цябе кранула рукамі*
*і ці каханне наша адплыве.*

*Б'е ў бубны дождж, пранізлівы і хуткі,*
*б'е ў бубны дрэў, у бубны дахаў б'е*
*і хваляванні ўсе мае, і смуткі*
*табе бесперапынна выдае.*

*У купал вежы звоніць уладарна,*
*рака на вуха нешта мне крычыць,*
*на горад з неба дзень зваліўся хмарны.*
*Цурчыць.*

### Ян ПАНІЧАН

## Любоў

*Заўжды агонь.*
*Спачатку дарагі*
*і палымяны*
*Ляцяць у неба іскры,*
*нібыта ад кастра.*
*У вышыні засвеціць і ўпадзе.*
*І згасне.*
*І выбухае зноў.*
*Знаходзіць потым сховішча агонь*
*у печцы.*
*У пліце.*
*У лямпе.*
*І хлеб пячэ.*
*І плавіць сталь.*
*І грэе, і дае святло.*
*У сэрцах двух*
*абудзіць пачуццё,*
*і злучыць іх п'янліваю гульнёй,*
*і дасць пачатак*
*новаму жыццю.*
*А ў рэшце рэшт паволі патухае,*
*хаваючы ў глыбінях вугалёк.*
*Сваім дыханнем вецер трапяткі*
*раскідае астылы прысак,*
*ды — бач! — ізноў,*
*як чарадзейны конь,*
*з нябачнай іскры*
*выскачыць агонь.*

### Андрэй ПЛАЎКА

## Спеласць

*Ах, і восень — залатое дзіва,*
*Выспявання дар,*
*Яблыкам румяным сарамліва*
*Палымнее твар.*
*Завітала з гэткай шчодрай ношай*
*Рана на зары,*
*Нібы маку, натрусіла грошай —*
*Паспрабуй збяры.*
*І здаля цябе зачаравала*
*Звабнасцю вачэй.*
*Не марудзь жа, чуеш, часу мала,*
*Пакаштуй хутчэй.*
*Кавуны тапырацца з-пад блузкі,*
*Кроў стукоча ў скронь.*
*Для арэхаў кошык вельмі вузкі —*
*Падстаўляй далонь.*
*Слодыч губ — у гронках вінаграда,*
*Косы распляла,*
*Легла ў ложак у зацішку сада*
*Кропляю святла.*

### Уладзімір РАЙСЕЛ

## Хатынь

*Ішоў я ўніз,*
*ішоў я ўгору —*
*наўкол гулі, гулі званы,*
*як быццам бушавала мора*
*ці лямант далятаў з вайны.*

*Жуду не збыць,*
*не выгнаць прэч:*
*званіцай комін стаў трывала,*
*плітой магільнай*
*легла печ,*
*што цеплыню жывым давала…*

*І ўсё ж яны*
*жывуць у мёртвай цішы,*
*а галасы іх —*
*галасы званоў;*
*іх крык*
*у нашым кроку зноў і зноў*
*на золку далі будзіць і калыша.*

*І стукаюць*
*іх сэрцы трапяткія*
*у нас усіх,*
*хто помніць іх заўжды,*
*ім вечна дыхаць кветкамі, якія*
*з усёй зямлі*
*прыносім мы сюды.*





Бойніцкі замак.

### Мілан РУФУС

## Воз с сенам

*З грукатам, нібы лёс,*
*у браму ўязджаў воз.*
*Духмяную павалоку*
*цягнуў за сабой здалёку.*
*Якім ён быў цудам усё-ткі:*
*і горкі, і разам салодкі.*
*А конскія капыты*
*з шалам адменным*
*выстуквалі рытм круты,*
*нібы на бубне ваенным.*
*Грымелі такты жалобныя,*
*на марш пахавальны падобныя.*

*Але трава,*
*мудрая і пасля смерці,*
*нікога не дакарала,*
*прыўстаўшы на дыбках,*
*з мужнасцю рэдкаю*
*сама сабе рэквіем*
*на самых танчэйшых скрыпках*
*іграла.*

*І пах, нібы слава свету.*

### Ян ШЫМАНОВІЧ

## Татры

*Віхор на ўзлессі ўкленчыць*
*і, прыціскаючы каленам,*
*вяроўкай апярэзвае дубы,*
*па возеры*
*раскідвае лісцё,*
*як карты варажбіт;*
*а цішыня ў цясніне, нібы сажа,*
*ні разу ветру рэхам не адкажа;*
*нібы сялянка,*
*неба твар наморшчыць,*
*таропка падбіраючы прыпол хмурынкі,*
*і ты ўздыхнеш, і займе дых на міг;*
*урэшце, плашч пад вокны*
*кіне нам віхор,*
*а сам далей шыбуе;*
*і зашасціць, як сена,*
*ціхі дождж.*

**Пераклад са славацкай мовы**
**Петруся МАКАЛЯ**

### Гелена КРЫЖАНАВА-БРЫНДЗОВА

## Колькі тых навальніц

*Колькі тых навальніц праляцела*
*па-над сэрцам маім, адкрытым*
*кожнай віхуры!*
*Колькі зліў*
*залівала яго дапаўна…*
*Колькі птушак стракатаперых,*
*што пяюць узахлёб аб каханні,*
*прытуляла яго вышыня.*
*Перш чым сплесці гняздо сваё, кожная,*
*ўзвіўшы крылы, ўзлятала над пожнямі,*
*як п'яных, іх неба хістала,*
*але сэрца, нясытае ў празе,*
*гнёзды тыя, заўжды недавітыя,*
*у шатах мякка хавала.*

*Столькі ласкі той сэрца мела,*
*што магло хваляй добрай і смелай*
*абмываць аж усю зямлю,*
*каб, салодкая, ў фарбах ранку,*
*ў росных срэбрах чыстых світанкаў*
*спявала са мною: люблю.*

*Мудры мой спявак шматгалосы,*
*выбіраеш галінку, як лёс свой,*
*крона ж кліча: прыйдзі ж! Ну, ідзі!*
*І якая ж то будзе галіна,*
*што цябе, мой спявак, не адрыне,*
*будзе ў стане цябе прыхіліць?*
*Ў чыстых ветрах лётае смела,*
*што балела і перабалела,*
*не, не будзе пустой мая длань.*
*Ў гэтай кроне і ў гэтых шатах,*
*паўналістых, жывых, кашлатых,*
*не парань сябе, не парань.*

*Колькі бураў… І кожная раніц,*
*але дрэва, няхай абхвастанае,*
*ў небе, ў сонцы вышэй усіх дрэў.*
*Ў ветры, у зорах кожнай развілкай,*
*і пульсуе ў ім кожная жылка, і чакае,*
*чакае твой спеў.*

**Пераклад са славацкай мовы**
**Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА**

### Уладзімір РОЙ

## Нападала снегу

*Нападала снегу, ах столькі бялюткага*
*снегу,*
*аж цяжка паверыць,*
*што тут, дзе ляжыць ён, калісьці*
*квітнелі*
*чырвоныя ружы*
*і пахам густым патыхаў размарын.*
*Усюды пад вэлюмам белым такая*
*цнатлівасць,*
*паветра халоднае, чыстае,*
*як самы найлепшы крышталь, —*
*вераб'інае племя з нахохленым пер'ем,*
*прыгнатае голадам, ціснецца*
*да цёплых хат*
*і думае, мо ў цеснаце*
*варожы ім чалавек*
*пашкадуе — і шчодра насыпле*
*з цёплых далоняў на белы снег*
*зярнятак…*

**Пераклад са славацкай мовы**
**Хведара ЖЫЧКІ**

# Канцлер. Рыцар. Гаспадар

## У Нясвіжы прайшла канферэнцыя да 500-годдзя Мікалая Радзівіла Чорнага

**Якім быў дакладны адрас жыхарства Сымона Буднага ў Клецку? Дзе напісаныя першыя кнігі на беларускай мове, надрукаваныя на тэрыторыі сучаснай Беларусі? Чаму Радзівілы ў якасці сваёй рэзідэнцыі абралі Нясвіж, а не Клецк, дзе была намнога лепшая інфраструктура? Даследчыкі гісторыі Новага часу ўжо ведаюць адказы на гэтыя пытанні. Вынікамі сваёй працы яны падзяліліся падчас Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі да 500-годдзя з дня нараджэння канцлера Вялікага Княства Літоўскага «Мікалай Радзівіл Чорны: палітык, дыпламат, мецэнат», што прайшла ў Нацыянальным гісторыка-культурным музеі-запаведніку «Нясвіж».**



*Доктар гістарычных навук Юрый Бохан.*

Сёлета дзве гістарычныя асобы, чый лёс быў звязаны з Нясвіжам, маюць юбілейныя даты. Гэта канцлер ВКЛ Мікалай Радзівіл Чорны (споўнілася 500 гадоў з дня яго нараджэння) і Марыя Дарота дэ Кастэлян (у 2015 годзе мы святкуем яе 175-годдзе), якая пакінула адзін з самых значных слядоў у гісторыі Нясвіжскага замка. Таму мерапрыемствы музея-запаведніка прысвечаныя менавіта гэтым асобам. Так, у адной з залаў Нясвіжскага палаца адкрытая выстаўка да юбілею Марыі Дароты дэ Кастэлян. Яна аднавіла палац, сачыла за тым, каб гарадскія старажытнасці таксама трымаліся ў добрым стане, прыводзіла іх у парадак. Побач з замкам Марыя Дарота заснавала вялікі парк, плошча якога — больш як сто гектараў, ён захаваўся і па сёння. На выстаўцы наведвальнікі Нясвіжскага замка могуць пабачыць шмат рэчаў, звязаных з гісторыяй жыцця Марыі Дароты. Гэта мэблевы гарнітур, кнігі з бібліятэкі. Некаторыя прадметы перададзеныя для выстаўкі нашчадкамі Марыі Дароты, напрыклад, срэбны сервіз.

— Сучасны музей мусіць быць не толькі захавальнікам рэчаў, але і цэнтрам, вакол якога гуртуюцца даследчыкі, навукоўцы, — лічыць намеснік дырэктара па навуковай рабоце Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж» Зміцер Яцкевіч. — Таму мы праводзім некалькі канферэнцый на год, арганізоўваем «круглыя сталы», выдаём зборнікі навуковых артыкулаў. Такім чынам могуць пазнаёміцца даследчыкі розных аспектаў гісторыі роду Радзівілаў, падзяліцца знаходкамі і адкрыццямі.

І сапраўды, канферэнцыя, прысвечаная 500-годдзю Мікалая Радзівіла Чорнага, стала не проста пляцоўкай для абмеркавання вынікаў навуковых росшукаў, нагодай для сустрэчы даследчыкаў з Беларусі і Расіі, але і магчымасцю спаткацца са старымі сябрамі, калегамі, у цёплай, сяброўскай атмасферы (хай і ў строгім акадэмічным фармаце) задаць важныя пытанні і атрымаць грунтоўныя адказы. Доўгія дыскусіі і абмеркаванні дакладаў, мноства пытанняў да выступоўцаў, розныя версіі і інтэрпрэтацыі падзей, ролі асоб — усё гэта было як на пленарным, так і падчас секцыйных пасяджэнняў канферэнцыі.

Доктар гістарычных навук, прафесар Расійскага дзяржаўнага ўніверсітэта і супрацоўнік Грайфсвальдскага ўніверсітэта ад фонду Гумбальта Канстанцін Ерусалімскі пазнаёміў калег з вынікамі свайго вывучэння вельмі вузкага сюжэта, што тычыцца дыпламатычных сувязей паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскай дзяржавай. Існуе нават меркаванне, што ў канцы XVI стагоддзя разглядалася ідэя уніі паміж дзяржавамі.

— Гэтая тэма яшчэ дакладна не вывучалася, але ёсць шэраг прычын, каб пра яе разважаць, — сцвярджае расійскі даследчык. Гаворка ідзе пра сакрэтную перапіску і перамовы, якія вялі польскія магнаты з мэтай перацягнуць маскоўскую эліту на службу каралю. Кароль Жыгімонт II Аўгуст прадстаўляўся ў «лістах заватрых» (менавіта так называлі пасланні з прапановамі) як міласцівы гаспадар, уважлівы да эмігрантаў не толькі першага шэрагу эліты, але і другога. Дарэчы, сакрэтныя лісты, якія згадваюцца ў дакументах XVI ст., нідзе не захаваліся. Магчыма, яны знішчаліся адразу пасля знаёмства адрасата са зместам паслання, бо маглі выклікаць міжнародны канфлікт, а іх аўтары мусілі быць пакараныя смерцю. А можа, іх лічылі другараднымі дакументамі, якія проста няварта захоўваць.

Натуральна, увага даследчыкаў была скіраваная не толькі на асобу Мікалая Радзвіла Чорнага, але і час, у які ён жыў і працаваў. Доктар гістарычных навук, загадчык кафедры БДЭУ Юрый Бохан разам з магістрам гісторыі і гісторыі мастацтваў, малодшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі НАН Беларусі Мікалаем Волкавым разгледзелі малюнкі на сюжэты XVI ст. з калекцыі графаў Машыньскіх з Музея Войска Польскага ў Варшаве. Мікалай Волкаў распавёў:

— Верагодна, гэтыя малюнкі паслужылі асновай для стварэння батальстычных карцін у другой палове XVIII — XIX ст. На двух малюнках прадстаўлены перамогі Радзівілаў. Пад усімі выявамі маюцца лацінамоўныя подпісы, некаторыя — вершаваныя. Адметна, што адлюстраванне гарадоў і замкаў тут прыдуманае. Гэта не сапраўдныя помнікі, але нейкія аб'екты з фантазіі аўтара. Чалавек, які іх маляваў, не бачыў рэальных падзей і месцаў. Таму можна меркаваць, што работы не створаныя людзьмі, якія прымалі ўдзел у адлюстраваных на іх падзеях. Гэта, хутчэй за ўсё, спроба стварыць гістарычную рэальнасць, зробленая як візуальная прапаганда.

Юрый Бохан зазначыў:

— Выявы носяць анекдатычны характар, бо чалавек, які іх маляваў, не арыентаваўся ў вайсковых рэаліях таго часу. І не мог па пэўных прычынах замалёўваць рэальныя аб'екты і падзеі. Аднак у рэаліях жыцця ВКЛ аўтары — а іх, хутчэй за ўсё, было два ці тры — арыентаваліся досыць добра. Праблема іканаграфіі XVI ст. вельмі вострая, усе даследчыкі адзначаюць, што вобразы, намаляваныя на карцінах часу, вельмі схематычныя. Аднак гэтыя малюнкі цікавыя таму, што яны найбольш рэалістычныя. Вельмі спакуслівa было б знайсці іх першаўзоры. Некаторыя падабенствы назіраюцца з мініяцюрамі Радзівілаўскага летапісу, але мне падаецца, што гэта вонкавае падабенства: не столькі капіяванне арыгінала, колькі знаёмства аўтара з рэаліямі жыцця ВКЛ і Рэчы Паспалітай.

Доктар мастацтвазнаўства, прафесар Дзяржаўнага інстытута кіравання і сацыяльных тэхналогій БДУ Вольга Бажэнава падзялілася вынікамі даследавання культу Мікалая Радзівіла Чорнага, які сфарміраваўся ўжо пасля яго смерці. Вольга Дзмітрыеўна распавяла, што для карцін, якія пісаліся пры двары Радзівілаў з XVI па XVIII ст., была характэрная познерэнесансная стылістыка. Сам Мікалай Радзівіл Чорны прадстаўляўся ў вглядзе адважнага рыцара, абаронцы родных земляў. На карцінах часта прысутнічаюць містычныя элементы, якія яшчэ больш падкрэслівалі боскую прыроду ўлады Радзівілаў.

Дарэчы, вобраз Мікалая Радзівіла Чорнага як адважнага рыцара і смелага воіна склаўся і ў літаратуры таго часу. На гэты аспект звярнуў увагу кандыдат філалагічных навук Уладзімір Кароткі. Аднак кандыдат гістарычных навук Андрэй Янушкевіч у сваім дакладзе сцвердзіў памылковасць празмернай увагі менавіта да вайсковых подзвігаў Мікалая Радзівіла Чорнага:

— Ён не вылучаўся ваяўнічасцю, і калі пачалася вайна з Маскоўскай дзяржавай, рабіў усё, каб зноў дасягнуць перамір'я. Дарэчы, саюз з Польшчай канцлер ВКЛ разглядаў толькі на ўзроўні культурных сувязей, сямейных адносін, лічыў важным захаванне самастойнасці Вялікага Княства. І толькі вайна з Маскоўскім княствам стала для Мікалая Радзівіла Чорнага вырашальнай умовай для заключэння уніі.

На адметнасці гаспадарання Мікалая Радзівіла Чорнага ў сваіх маёнтках звярнуў увагу доктар гістарычных навук, дацэнт, загадчык аддзела Інстытута гісторыі НАН Беларусі Валянцін Голубеў. Даследчык падкрэсліў:

— Мікалай Радзівіл Чорны ў сваіх уладаннях праводзіў такую ж палітыку, як вялікі князь у дзяржаве. Ён сам пераводзіў маёнткі — у залежнасці ад таго, што было больш прыбыткова для кожнага з іх — на чынш ці на паншчыну. Даваў зямлю шляхце з умовай выканання ваенных абавязкаў. Ён па-свойму арганізоўваў сістэму кіравання: прызначаў войтаў, якія падпарадкоўваліся толькі яму, умацоўваў сельскую абшчыну, каб людзі разам маглі выконваць свае абавязкі на карысць Радзівіла, каб кантралявалі і аканомаў, і рэвізораў. Ён думаў заўсёды на перспектыву, каб радзівілаўскія ўладанні заставаліся іх уласнасцю, былі дагледжанымі, каб сяляне багацелі і мелі магчымасць плаціць падаткі.



*Кнігі з бібліятэкі Нясвіжскага замка, прадстаўленыя ў межах экспазіцыі да 175-годдзя Марыі Дароты дэ Кастэлян.*

Навукоўцы, што прынялі ўдзел у канферэнцыі, звярнулі ўвагу на розныя аспекты дзейнасці Мікалая Радзівіла Чорнага, распавялі пра час, у які ён жыў і працаваў, вывучылі яго адносіны да рэлігіі, даследавалі спісы кліентаў канцлера ВКЛ. Па выніках работы канферэнцыі плануецца выданне зборніка навуковых работ, дзе можна будзе больш падрабязна пазнаёміцца з тэкстамі дакладаў. Адметна, што на гэтым святкаванне юбілеяў Мікалая Радзівіла Чорнага і Марыі Дароты дэ Кастэлян не скончанае. Так, у верасні ў Нясвіж зноў завітаюць гісторыкі, спецыялісты ў галіне генеалогіі і геральдыкі, краязнаўцы і музейныя работнікі, каб прыняць удзел у «круглым стале» «Генеалогія роду Радзівілаў XV — XXI стст.: праблемы вывучэння, здабыткі і перспектывы».

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

Пуцявіны

# Размяркуйце мяне ў Сібір!

**Яму магло б быць восемдзесят. Творчага чалавека ніколі не пакідае прага ствараць новае. Вось і ў скульптара Віктара Мурашова было многа творчых задум, ён нястомна працаваў над новымі кампазіцыямі, навеянымі часам. Але жыццё абарвалася...**



Віктар Мікалаевіч — чалавек незвычайнага лёсу, скульптар з багатым творчым набыткам, непаўторным талентам. Нарадзіўся 27 ліпеня 1935 года ў Кранштаце ў сям'і рабочых Марскога завода. Здавалася б, горад марской славы павінен быў абудзіць жаданне стаць мараком. Але ён захапіўся вёскай, яе жыхарамі. Кожнае лета бацькі адпраўлялі яго да дзядулі і бабулі ў вёску Марозаўская Кастрамской вобласці. Там перажыў гады фашысцкай навалы, працаваў падпаскам. Цікавасць да мастацкай творчасці абудзіла ў Віктара бабуля Алена. «Аднойчы яна паклала перада мной лісток паперы, дала аловак і сказала: «Малюй!» — так узгадваў скульптар першы імпульс, які запачаткаваў жаданне тварыць. А яшчэ хлопчык захапляўся працай дзеда — разбяра па дрэве Аляксандра Лебедзева.

У выяўленчай студыі пры Кранштацкім Доме піянераў Віктар Мурашоў вучыўся ў таленавітага мастака Івана Мяркеева. Разам з вучнямі выкладчык хадзіў на эцюды ў гарадскія паркі, Эрмітаж, Рускі музей, майстэрні вядомых ленінградскіх мастакоў і скульптараў. З 1955 па 1961 гг. Віктар Мікалаевіч вучыўся ў Ленінградскім інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў майстэрні выдатнага скульптара і педагога Міхаіла Керзіна. Апошні заўважыў цікавасць студэнта да скульптуры, але і патрабаваў ад яго з усёй строгасцю. Так, прагледзеўшы эскізы да дыпломнага праекта, выкладчык убачыў, што студэнт спрабуе ляпіць «па памяці». М. Керзін напісаў крэйдай на дзвярах майстэрні: «Катастрофа непазбежная, калі Вы адмовіцеся ляпіць з натуры!». Гэтую заўвагу малады скульптар успрыняў як наказ і надалей імкнуўся шукаць вобразы персанажаў сваіх скульптурных партрэтаў і кампазіцый у жыцці.

Вялікі поспех выпаў на студэнцкую работу Віктара Мурашова — скульптуру «Пецька Спічкін». Скурчаная фігура хлопчыка, які дрыжыць ад холаду і толькі што «дарваўся» да вады, надзвычай кранае, наводзіць на ўспаміны з дзяцінства. Сюжэт гэтай работы скульптар «падгледзеў» падчас практыкі на Урале. Рэдкі выпадак: работа студэнта, выкананая на чацвёртым курсе, была прадстаўлена на выстаўцы «Савецкая Расія», трапіла ў пастаянную экспазіцыю Траццякоўскай галерэі, экспанавалася на міжнародных выстаўках. Адзін з яе аўтарскіх варыянтаў пад назвай «Халодная вада» ўсталяваны ў Кітаі (г. Чан-Чун).

Здавалася б, пасля такога поспеху выпускнік інстытута мог бы застацца ў Ленінградзе. Але папрасіў размеркаваць яго ў Сібір. Як пазней прызнаваўся, не хацелася быць у залежнасці ад прызнаных ленінградскіх майстроў. З 1961 па 1977 год творца працаваў у Цюмені, узначальваў цюменскі Саюз мастакоў. Работы гэтага перыяду разнастайныя па тэматыцы, але аб'яднаныя ўвагай скульптара да звычайных людзей: «Баба Вера», «Пятроўна», «Барыс Івановіч», «Падсобніца», «Працоўныя рэзервы». Не абмінаў В. Мурашоў і дзяцей: у адным шэрагу з «Пецькам Спічкіным» стаяць «Дзяўчынка з косамі», «Надзенька», «Дзеці, якія бягуць пад дажджом», «Валерка-першакласнік». Значнае месца займаюць і выявы знакамітых людзей: партрэты пісьменніка П. Яршова, аўтара казкі «Канёк-Гарбунок», ветэрана Кастрычніцкай рэвалюцыі К. Жалтоўскага, мастака К. Бялова і інш. Некалькі разоў скульптар звяртаўся да вобраза генерала Д. Карбышава, — скульптурны партрэт (1968), бюст (1972) і двухметровая статуя (1974).

Віктар Мурашоў стварыў асабісты непаўторны стыль, якому характэрны абагуленасць трактоўкі, рэзкая акрэсленасць абрысаў, адсутнасць дэталізацыі: характэрныя работы такога плана — «Партрэт народнага мастака Бурацкай АССР Сасора Санджыева», «Дзед Васіль з Каслей». Творца працаваў з усімі матэрыяламі, якія толькі можа скарыстаць скульптар: бронза, гіпс, алюміній, мармур, дрэва, чыгун, медзь.

У 1977 годзе Віктар Мікалаевіч пераехаў з сям'ёй на сталую працу ў Мінск. Яго стылёвая манера ў гэтую пару змяняецца ў бок больш пластычнай, дакладнай у дэталях, але па-ранейшаму з характэрнымі рысамі. На новым месцы В. Мурашоў адразу ўвайшоў у жыццё Саюза мастакоў, працягнуў шукаць займальныя вобразы: яго зацікавілі такія асобы, як пісьменнік Максім Лужанін, оперны спявак Зіновій Бабій, скульптар Іван Міско. У горадзе Клічаве ўсталяваны створаныя ім бюсты Герояў Савецкага Саюза П. Крываноса і Ф. Кавалёва. Ён аўтар мемарыяльных дошак, прысвечаных народнаму артысту СССР Мікалаю Яроменку, акадэміку АН БССР Фёдару Гахаву, футбалістам «Дынама» В. Хрусталёву, Ю. Пагальнікаву, А. Ягараву. Музею мінскай школы-інтэрната № 4 В. Мурашоў падарыў скульптурны партрэт Мішы Мароза, школьніка, які вынес з поля снарад, выратаваў жыцці аднакласнікаў, але загінуў сам.



У майстэрні Віктара Мікалаевіча пасля дачаснага сыходу з жыцця 29 мая 2009 года засталіся незавершаныя работы, якія скульптар хацеў прадставіць на суд гледачоў: «Яблычны спас», «Роздум пра жыццё». Творца цікавіўся гарадской скульптурай, хацеў паставіць адну са сваіх скульптурных груп, «Сабака і кот», у парку Бангалор. Задумаў зрабіць мемарыяльную дошку ў памяць Героя Савецкага Саюза мастака Міхаіла Зялёнкіна і інш.

Работы Віктара Мурашова знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Траццякоўскай галярэі, а таксама ў музеях Цюмені, Улан-Удэ, Омска, Табольска, Пярмі, Ростова-на-Доне, прыватных зборах.

**Міхась КЕНЬКА**

# Джаз ля Ратушы

**Мінскае лета пачалося з джаза! Праект «Джазавыя вечары», распачаты ў 2013 годзе, — гэта серыя міжнародных летніх канцэртаў пад адкрытым небам. На плошчы Свабоды выступаюць самыя яскравыя зоркі еўрапейскай джазавай сцэны.**

— Джаз — універсальная мова зносін артыстаў і гледачоў, музыка творчых і вольных людзей, — адзначыла арганізатар фестывалю, дырэктар фонду «Ідэя» Наталля Куцан. Нягледзячы на тое, што аснова фэсту — джаз, на мінскай сцэне пераплятаюцца іншыя стылі і напрамкі: блюз, соўл, джазавая класіка і этна.

Выдатная жывая бясплатная музыка захапляе самыя розныя пакаленні слухачоў. «У мінулым годзе фестываль сабраў каля 15 тысяч чалавек, якія падтрымалі наша імкненне вывесці джазавую музыку з закрытых пляцовак у атмасферу цёплага суботняга вечара. Гэта стымулюе нас не апускаць планку і прывозіць у Мінск толькі лепшых музыкантаў», — адзначыў намеснік дырэктара дэпартамента карпаратыўнага кіравання ААТ «Банк БелВЭБ» Аляксей Бабіна.

Мадс Маціяс, дацкі вакаліст і мультыінструменталіст, выканаў кампазіцыі са свайго новага альбома «Free Falling», а таксама песні з рэпертуару Фрэнка Сінатры, якому ў гэтым годзе споўнілася б сто гадоў. Музыкант прадставіў праграму пры ўдзеле дацкага піяніста і кампазітара Петэра Розэндала. У гэты ж дзень ігралі шведская група «Copro» і беларускае трыа Канстанціна Гарачага.

13 чэрвеня канцэрт распачаў французскі музыкант з в'етнамскімі каранямі Нгуен Ле, які на працягу трыццаці гадоў выступае з лепшымі выканаўцамі планеты. Пасля атрымання адукацыі ў галіне выяўленчага мастацтва і філасофіі ён прысвяціў сябе музыцы, стварыўшы ў 1983 годзе шматнацыянальную групу «Ultramarine». Альбом «DE» групы «Ultramarine» быў прызнаны ў Францыі лепшым у жанры «World Music». На сталічнай сцэне Нгуен Ле выступіў у складзе трыа «Агонь і вада». Разам з ім мастацтва джазавай імправізацыі прадэманстраваў трубач Клаус Шцётэр, які пачаў вучыцца гульні на гэтым інструменце ў дзесяць гадоў. У 1982 годзе ў складзе трыа «Jazz Vision» ён атрымаў першую прэмію на конкурсе «Jugend jazzt». Чатырма гадамі пазней група разраслася да квінтэта пад назвай «Nevertheless», які існуе і па сёння. У пачатку 1990-х музыкант атрымаў прэстыжную джазавую прэмію федэральнай зямлі Бадэн-Вюртэмберг. З 1989 па 2006 выкладаў на аддзяленні джазавай трубы ў Вышэйшай школе музыкі і тэатра Штутгарта. З 2008 года — выкладчык джазавай музыкі ў Вышэйшай школе музыкі і тэатра Гамбурга.

На сцэну выйшла і Беата Пшыбытэк — выдатная спявачка, піяністка і кампазітар. «Адзін з самых харызматычных музыкантаў польскай сцэны», — так кажуць пра Беату і музычныя крытыкі, і артысты, і ўдзячная публіка. Выпускніца джазавага факультэта акадэміі музыкі імя Караля Шымануўскага, сёння Беата — ганаровы прафесар гэтай знакамітай навучальнай установы. Спявачка заваявала мноства ўзнагарод, сярод якіх прэмія «Ікар 2013», першая прэмія Міжнароднага конкурсу джазавых вакалістаў у Замосце. Яе альбом «I will rock you» стаў у Польшчы «Альбомам 2012 года».

Завяршала джазавы вечар група «Morfé», заснаваная Аганэсам Аванэсянам у 2007 годзе. «Morfé» — спроба раскрыць багацце і глыбіню джазавай і народнай музыкі ў кантэксце сучасных стыляў, напрамкаў і тэндэнцый. Выкарыстоўваючы этнічныя рытмы, гіпнатычныя тэмбры басу, складаныя і амаль трансавыя мелодыі электронных трэкаў, музыканты дамагліся арыгінальнага і непаўторнага гучання, якое не ўпісваецца ў традыцыйныя жанры. Нядаўна музыканты выпусцілі новы альбом «Ziziaq».

Заключны канцэрт адбудзецца ля Ратушы заўтра, а 8-й вечара. Мінчане змогуць паслухаць «ікону брытанскага джаза» па версіі часопіса *Time* Дэніса Баптыста, які выступіць разам з вядомым беларускім гуртом «Apple Tea». Каму не выпала магчымасці прысутнічаць на папярэдніх канцэртах, хто любіць джаз ці, магчыма, будзе слухаць яго ўпершыню, раю наведаць плошчу Свабоды і акунуцца ў гэтую выдатную атмасферу. Не пашкадуеце!

**Элеанора СКУРАТАВА**

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

Бібліятэчны сшытак

19 чэрвеня 2015 г.



Абраз-алеадрук «Святая сям'я», 1930-я гады XX ст.

# Старадаўніх выяў хараство

Выстаўка «Дух рэлігійнай традыцыі і друкаваная ікона» з фондаў Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту ды Музея земляробства імя ксяндза Кшыштафа Клюка (г. Цехановец, Польшча) працуе ў галерэі "Лабірынт" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Гэта першы выставачны праект двух музеяў у межах міжнароднага супрацоўніцтва.

У экспазіцыі прадстаўлена звыш 70 твораў мастацтва, надрукаваных у канцы XIX — пачатку XX стагоддзя ў мудрагелістай тэхніцы хромалітаграфіі, якая дазваляла тонка перадаць усе колеры арыгінала і выпускаць такія выявы вялікімі тыражамі.

Сярод праваслаўных ікон вылучаюцца творы адэскага выдаўца Яфіма Фясенкі ды расійскага — Івана Сыціна. Самы арыгінальны каталіцкі абраз — «Божая Маці "Чанстахоўская"»: варта змяніць ракурс — і перад сузіральнікам адкрываюцца тры выявы: Антонія Падуанскага, Анёла-ахоўніка і Божай Маці. З'явіліся абразы такога кшталту ў XVIII стагоддзі. Сярод іншых экспанатаў — абразы-алеадрукі «Святы Антоній», «Святая Агата», «Святы Казімір» (Польшча), «Духоўнае благаслаўленне дому», «Алегорыя цела Хрыстова», «Святы Мікола» (Беларусь) і г. д.

Падчас адкрыцця выстаўкі публіку прывітаў дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі, які падкрэсліў, наколькі важна не згубіць і максімальна захаваць духоўную спадчыну продкаў. Паводле Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Лешэка Шэрэпкі, новая выстаўка — узор плённага беларуска-польскага культурнага супрацоўніцтва. Дырэктар Музея земляробства імя ксяндза Кшыштафа Клюка Дарота Лапяк распавяла пра гісторыю і структуру гэтай установы і зазначыла: творчае супрацоўніцтва з Беларускім дзяржаўным музеем народнай архітэктуры і побыту працягваецца два гады. Гэта выдатная магчымасць глыбей пазнаёміцца з культурай і мастацтвам суседняй краіны.

Куратар выстаўкі, супрацоўнік Музея земляробства імя ксяндза Кшыштафа Клюка Станіслаў Крыньскі прэзентаваў і перадаў у дар Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі каталог «Дух рэлігійнай традыцыі і друкаваная ікона», выдадзены на беларускай, польскай і англійскай мовах, які распавядае пра выставачныя экспанаты.

Раскрываючы прысутным гісторыю экспанатаў, загадчык навукова-экспазіцыйнага аддзела Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту Аляксандр Ісакаў заўважыў: прадстаўлены дзве калекцыі ікон — беларуская і польская, а дапаўняе іх выстаўка рэдкіх кніг з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Можна пабачыць рэпрынтныя выданні беларускіх стэрадрукаў XVI — XVIII стагоддзяў з чорна-белымі і каляровымі выявамі абразоў (друкары Спірыдон Собаль, Аляксандр Тарасевіч) і арыгіналы XIX — пачатку XX стагоддзя, выданні па гісторыі друкавання, энцыклапедыі тэхнічных прыстасаванняў для хромалітаграфіі, каталогі друкаваных абразоў найбуйнейшых прыватных выдавецтваў.

Выстаўка «Дух рэлігійнай традыцыі і друкаваная ікона» дэманструе асобныя калекцыі абразоў як цэласную мастацкую з'яву.

**Яна ЯВІЧ**

# Госці ды суседзі

**У Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна адбылася прэзентацыя кнігі кандыдата гістарычных навук Балдадаша Ганбарава, прысвечанай даследаванню гісторыі азербайджанскай дыяспары ў Рэспубліцы Беларусь. Госці вечарыны мелі магчымасць асабіста пазнаёміцца з азербайджанскім празаікам, драматургам, перакладчыкам Камранам Назірлі.**

Можна сцвярджаць, што гэтая імпрэза стала доўгачаканай сустрэчай сяброў, землякоў, членаў азербайджанскай дыяспары ў Беларусі. Многія з іх — выдатныя мастакі, даследчыкі, медыкі, вайскоўцы, нарадзіўшыся ў далёкім Азербайджане, воляю лёсу апынуліся ў нашай краіне. Тут і пражылі фактычна ўсё жыццё. Але памяць пра родную зямлю, матчына мова жывуць у іх сэрцах. Напэўна, таму з надзвычайнай радасцю госці слухалі вершы на азербайджанскай мове, звярталіся адзін да аднаго па-азербайджанску, выказвалі шкадаванне, што так рэдка збіраюцца разам і амаль не маюць магчымасці сустракацца і гутарыць з выдатнымі землякамі, якія часам наведваюцца ў Беларусь.

Але сустрэча з Камранам Назірлі стала прыемным выключэннем. Госці паслухалі расповед спадара Камрана пра яго кнігі і планы на будучыню, задалі пытанні пісьменніку (на роднай мове!) і атрымалі некаторыя кнігі аўтара ў падарунак.

Камран Назірлі скончыў Інстытут замежных моў, працаваў настаўнікам англійскай мовы, журналістам, памочнікам міністра друку Азербайджана, прэс-сакратаром Нацыянальнага банка краіны. Сёння ён мае навуковую ступень кандыдата філалагічных навук, а на творчым рахунку майстра — больш як дзясятак кніг прозы, перакладаў, публіцыстыкі. Пераклады апавяданняў Камрана Назірлі друкаваліся на старонках перыядычных выданняў ЗША, Турцыі, Украіны, Казахстана, Беларусі. Ён пераствары на азербайджанскай мове творы Джэка Лондана, Эдгара Алана По, Джорджа Байрана, Гілберта Чэстэртана, а таксама пазнаёміў англамоўных чытачоў з класічнымі і сучаснымі аўтарамі Азербайджана. Не так даўно ў Лондане прайшла прэзентацыя кнігі Candles — анталогіі паэзіі Азербайджана ў перакладзе Камрана Назірлі на англійскую мову. Выданне змяшчае 101 верш азербайджанскіх паэтаў.

— Візіт у Беларусь — выдатная нагода пагутарыць пра далейшае супрацоўніцтва ў галіне ўзаемаперакладу, — распавёў Камран Назірлі. — У маіх планах — складанне анталогіі твораў беларускіх паэтаў і празаікаў у перакладзе на азербайджанскую мову.

Узаемнае знаёмства з літаратурамі беларусаў і азербайджанцаў — выдатная магчымасць больш даведацца пра народы, з якімі калісьці жылі ў адной краіне. Яшчэ адзін спосаб спазнаць суседзяў (так, менавіта суседзяў, якія жывуць побач з намі сёння) — гутарка праз старонкі кнігі Балдадаша Ганбарава «Нарысы гісторыі азербайджанскай дыяспары ў Рэспубліцы Беларусь (1989 — 2014 гг.)», што не так даўно пабачыла свет у мінскім выдавецтве «Права і эканоміка».

— У маёй дысертацыйнай рабоце частка, прысвечаная даследаванню гісторыі дыяспары нашага народа ў Беларусі, займае каля пятнаццаці старонак, — распавёў Балдадаш Акіфавіч. — Пазней, калі вырашыў выдаць асобную кнігу, сустракаўся практычна з кожным сябрам дыяспары, бо хацелася напісаць праўдзівую гісторыю. Мне было сорамна, што раней не ведаў некаторых выдатных асоб — выхадцаў з Азербайджана, але, дзякуючы гэтай працы, пазнаёміўся з многімі. Мая кніга — перша-крыніца, яна стане асабліва каштоўнай гадоў праз сто, калі падзеі, апісаныя ў даследаванні, ужо будуць сапраўднай гісторыяй.

На першай і апошняй старонках вокладкі кнігі «Нарысы гісторыі азербайджанскай дыяспары ў Рэспубліцы Беларусь (1989 — 2014 гг.)» — партрэты. І гэта невыпадкова. Па меркаванні аўтара, фотаздымкі (а іх шмат і ў самім выданні) — частка вялікага і значнага архіва, які неабходна ашчадна зберагаць для наступных пакаленняў. Больш за тое, прэзентаванае выданне — толькі першы крок у вывучэнні гісторыі азербайджанскай дыяспары ў Беларусі. Прафесійных даследчыкаў і энтузіястаў тут чакае яшчэ шмат адкрыццяў, знаходак, магчыма, нават сенсацый.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Лялькі, якіх мы не бачылі

**Сталічная дзіцячая бібліятэка № 9 запрасіла чытачоў наведаць выстаўку «Лялькі, якіх мы не бачылі». У экспазіцыі — лепшыя работы Кацярыны Камельчык, выкладчыка мастацкіх дысцыплін гімназіі-каледжа мастацтваў г. Маладзечна: малюнак, жывапіс, кампазіцыя. Апошнія некалькі год яна займаецца вырабам лялек.**



Марынка — дачка марака.

Вялікі поспех мела персанальная выстаўка К. Камельчык «Не цацкі», што адбылася ў Маладзечне. Яе лялькі ўпрыгожваюць прыватныя калекцыі Еўропы, ЗША, Расіі. Работы мастачкі неардынарныя, напоўненыя тонкім гумарам. У кожнай лялькі — свая гісторыя. Гэтыя чарадзейныя гісторыі і распавяла аўтар дзецям і дарослым, што прыйшлі на сустрэчу.

«Рабіць лялек — усё роўна што дыхаць. Магчымасць паспрабаваць сябе ў розных якасцях дапамагла мне вызначыць той жанр, які найбольш поўна раскрывае маё светаадчуванне, — мастацкая лялька», — падзялілася з публікай Кацярына Пятроўна. Наведвальнікі выстаўкі былі проста зачараваныя цудоўным светам мастачкі, з захапленнем разглядалі ўнікальныя работы, сярод якіх можна было сустрэць і Гаспадыню залатога цмока, і Берагіню сноў, і Надзін — жонку рыбака, і Марынку — дачку марака. Уважліва слухалі казку пра Жанчыну з бутэлькі. Цікавіліся тэхнікай, у якой зроблены лялькі, новымі творчымі задумкамі аўтара. І вельмі шкадавалі, што не могуць тут і цяпер пабачыць мастака за працай.

**Наталля САКАЛЯНСКАЯ**

# Агеньчык памяці не згас…

**Прэзентацыя чарговай кнігі серыі «Дзеці вайны» выдавецтва «Чатыры чвэрці», прысвечанай 70-годдзю Вялікай Перамогі, адбылася ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.**

Дырэктар і галоўны рэдактар выдавецтва Ліліяна Анцух прадставіла гасцям мерапрыемства аўтара зборніка «Пад прыцэлам вайны» доктара біялагічных навук Леаніда Емяльянава і адзначыла, што кніга стала дваццатай па ліку ў серыі.

Леанід Рыгоравіч — аўтар шматлікіх навуковых і навукова-папулярных прац. Л. Емяльянаў сабраў успаміны 15 сваіх калег-навукоўцаў, чыё дзяцінства, як і яго самога, непарыўна звязана з вайной.

Падчас прэзентацыі бралі слова героі кнігі: акадэмік Віктар Парфёнаў, доктар сельскагаспадарчых навук Анатоль Меяроўскі, доктар біялагічных навук Мікалай Лоўчы, доктар геаграфічных навук Віктар Кісялёў ды іншыя. Аўтар распавёў, як нарадзілася ідэя кнігі, падкрэсліўшы, што важным было максімальна перадаць праўду, якую захавала дзіцячая памяць герояў кнігі, жывых сведак вайны.

У імпрэзе таксама ўдзельнічалі айчынныя пісьменнікі Міхась Пазнякоў, Мікола Шабовіч, Дзмітрый Пятровіч, Анатоль Зэкаў, Мікола Чарняўскі, Ніна Галіноўская, Іван Ярашэвіч, Зіновій Прыгодзіч, Алесь Савіцкі.

Старшыня праўлення Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў




Беларусі і аўтар кнігі «Хлеб для партызанаў» Міхась Пазнякоў адзначыў: серыя «Дзеці вайны» і надалей будзе цікавая чытачу, бо кожнае пакаленне па-новаму адкрые для сябе тэму ліхалецця. Ніна Галіноўская, аўтар зборніка «Няма даравання вайне», упэўнена: «агеньчык памяці не згас» і не згасне.

Усе дваццаць кніг — крыніцы народнай памяці, промні людской праўды. На думку Ліліяны Анцух, такія праекты падказвае само жыццё.

Новая задумка выдавецтва — праект «Мінская гарадская бібліятэка». У яго межах выдавецтва плануе выпуск фундаментальных твораў вядомых айчынных літаратараў у перакладзе на рускую мову, каб з набыткам беларускіх творцаў пазнаёмілася як мага шырэйшая чытацкая аўдыторыя. Падчас прэзентацыі Ліліяна Фёдараўна прадставіла першую кнігу гэтай серыі — раман Алеся Савіцкага «Зямля не раскажа».

Творчую атмасферу сустрэчы падтрымалі юная артыстка Анастасія Жабко, калектыў тэатра «Сонечныя дзеці».

**Ганна МАСЛЯКОВА**

# Інтэлект і творчасць

Семінар «Бібліятэка — пляцоўка для творчага і інтэлектуальнага развіцця насельніцтва», арганізаваны аддзелам бібліятэчнага маркетынгу, прайшоў у Астравецкай раённай бібліятэцы.

Метадысты пазнаёмілі супрацоўнікаў кніжніцы з новымі формамі і інфармацыйнымі тэхналогіямі бібліятэчнай працы, далі парады па рабоце з мультымедыйнай прадукцыяй, інтэрнэт-рэсурсамі, разам абмеркавалі эфектыўныя метады прыцягнення чытачоў у бібліятэку.

У ліку пытанняў і праца з маленькімі чытачамі падчас летніх канікул. Разважалі, як развіваць творчыя здольнасці дзяцей, прадставілі прыклады праграм летняга чытання.

На выстаўцы творчых работ «Майстэрства і натхненне», зладжанай да семінара, можна было пабачыць работы з бісеру, сурвэткі, карціны і нават кулінарныя вырабы.

***

Прыемна здзівілі чытачоў супрацоўнікі Астравецкай раённай бібліятэкі: у вёсцы Лоша можна было завітаць… у кніжніцу пад адкрытым небам! Да таго ж былі тут не толькі кнігі ды часопісы, але і артысты. Работнікі культуры Дзмітрый Максімаў, Яўгенія Шаптун, Віктар Рудзінскі, Вікторыя Мізула і народны калектыў «Світанак» узнялі настрой песнямі і байкамі.

Рады былі гасцям і ў вёсцы Быстрыца. Кнігі наведвальнікам прапаноўвала бібліятэкар Марына Пруднічэнкава. На яе думку, такія імпрэзы карысныя для ўсіх: чытачам — пазітыў, кніжніцы — новыя карыстальнікі. Цяпер чакаецца творчы візіт у вёску Якентаны.

**Ганна КЕРЭЛЬ,**
**супрацоўнік аддзела бібліятэчнага маркетынгу**
**Астравецкай раённай бібліятэкі**

# Да крыніцы шчырасці

**Вечарына паэта, крытыка і літаратуразнаўцы Валерыя Максімовіча адбыўся ў сталічнай бібліятэцы № 22 на чарговым пасяджэнні літаратурнага клуба «Шчырасць».**

Супрацоўнікі кніжніцы наладзілі выстаўку кніг паэта і публікацый яго твораў «Зямля мая — мой звонкаспеўны край, / Святая жыватворная крыніца!..».

Гасцей прывітала загадчык кніжніцы Наталля Ярашэвіч. Кіраўнік клуба, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў распавёў пра творчасць паэта.

Лірыка В. Максімовіча мілагучная, шчырая, светлая, нездарма шмат яго вершаў пакладзена на музыку. Падчас імпрэзы творы паэта прагучалі ў аўтарскім выкананні. Валерый Максімовіч узгадваў незвычайныя выпадкі з жыцця, паказваў фотаздымкі. Госці вечарыны змаглі набыць кнігі з аўтографам аўтара.

**Раіса РАЧЫНСКАЯ**

# Пра родную зямлю

Сустрэча з айчынным паэтам-песеннікам, сябрам Саюза пісьменнікаў Беларусі Канстанцінам Цыбульскім «Мой край», ініцыяваная супрацоўнікамі Ждановіцкай сельскай бібліятэкі, адбылася ў Год моладзі ў мясцовай школе. К. Цыбульскі — аўтар тэкстаў многіх вядомых песень. Шэраг яго вершаў паклаў на музыку кампазітар Мікалай Яцкоў.

Падчас імпрэзы ў госця атрымаўся пранікнёны дыялог з публікай пра любоў да роднага краю і мовы. Канстанцін Пятровіч цікава і дасціпна распавёў пра сваё дзяцінства і творчы шлях. Творца выконваў аўтарскія песні, дэкламаваў свае любімыя вершы і шчыра адказваў на самыя розныя пытанні, часам вельмі няпростыя. Яго бліскучае выступленне прагучала як сапраўдная пропаведзь аб каханні, любові да Беларусі, да роднай мовы.

**Галіна АТРАСЕВІЧ,**
**загадчык Ждановіцкай бібліятэкі**

# Усё пачалося з казкі

**Творчая сустрэча з айчыннай пісьменніцай, літаратурным крытыкам, журналістам Людмілай Рублеўскай адбылася ў Ждановіцкай сельскай бібліятэцы.**

Падчас імпрэзы Людміла Іванаўна распавяла пра сваё маленства, шлях у літаратуру, пра творчасць і журналісцкую працу. Дарэчы, некаторы час яна вучылася ў Ждановічах — у санаторна-курортнай школе.

Людміла Рублеўская — аўтар паэтычных зборнікаў «Крокі па старых лесвіцах», «Замак месячнага сяйва», «Балаган», «Над замкавай вежай», а таксама «Шыпшына для Пані», з якога яна прадэкламавала публіцы некалькі вершаў.

Проза Л. Рублеўскай пачалася з дзіцячых казак, якія яна спачатку распавядала дачцэ Вераніцы. Пасля гэтыя творы склалі кнігу «Прыгоды мышкі Пік-Пік». А яшчэ пісьменніца выпусціла кнігу «Карона на дне віра, альбо Казкі з хутара Юстына», таксама для дзяцей: чарадзейныя аповеды пераносяць чытача ў свет лекавых і рэдкіх раслін.

Людміла Іванаўна вельмі любіць паданні і легенды пра Беларусь і Мінск, пра гістарычных асоб. Відаць, таму мноства яе твораў насычана казачнафэнтэзійнай вобразнасцю.

За цікавай гутаркай час праляцеў вельмі хутка. Напрыканцы сустрэчы адбылася аўтограф-сесія. Аўтарка падаравала бібліятэцы некалькі кніг з аўтографамі. З творамі Л. Рублеўскай можна было пазнаёміцца і на выстаўцы «Беларусь, душы маёй калыска…», арганізаванай супрацоўнікамі бібліятэкі.

**Святлана РАЕЎСКАЯ**

# Аўтограф на ўспамін

**Надвор'е не радавала цяплом. Не быў выключэннем і ранак, калі пісьменнікі, сябры літаб'яднання «Нёманец» — Дзмітрый Вінаградаў, Таццяна Цехнябедзіна, Алеся Зінічэнка, Аксана Драчан і аўтар гэтых радкоў — наведалі Дзешчанскую і Хатлянскую школы.**

Дзешчанская школа-сад. Утульны дворык. Мноства кветак. Дырэктар школы Рамуальда Нямчонак правяла нас у інтэграваную сельскую бібліятэку. Асабліва ўразіў стэнд, прысвечаны пісьменнікам-землякам. Паездка наша была запланаваная ў межах літаратурнага праекта «Кніга. Пісьменнік. Моладзь», створанага ў цэнтральнай раённай бібліятэцы імя П. Труса.

Мэта праекта — захоўваць літаратурныя традыцыі Уздзеншчыны, папулярызаваць чытанне сярод моладзі, павышаць статус кнігі, бліжэй знаёміць моладзь з літаратурнымі здабыткамі мясцовых аўтараў, выхоўваць патрыятычныя пачуцці, пашыраць веды пра родны край.

У актавай зале нас віталі старшакласнікі. Было прыемна, што кожнае наша слова ўспрымалася з захапленнем. Падчас гэтай сустрэчы пісьменнікі засведчылі: толькі трымаючы кнігу ў руках і гартаючы яе старонкі, напоўніцу адчуваеш каштоўнасць напісанага аўтарам.

Далей шлях прывёў у Хатлянскую сярэднюю школу. Сустрэла нас дырэктар Надзея Рамановіч. Наведалі і школьны музей, які атрымаў статус народнага яшчэ ў 1997 годзе, а заснавальнікам яго быў Міхаіл Лазар. Цяпер кіраўнік музея — Мацвей Мацукевіч.

Пасля была сустрэча з вучнямі, падчас якой госці расказвалі пра сябе, чыталі вершы. Дзмітрый Вінаградаў распавёў пра пісьменніка-земляка Васіля Гурскага, які нядаўна пайшоў з жыцця. Ветэран пакінуў вялікую спадчыну — 33 кнігі, прысвечаныя самым розным тэмам.

На ўспамін пісьменнікі падарылі школам свае кнігі, выказаўшы спадзяванне, што нашчадкі прадоўжаць багатыя традыцыі і з цікавасцю будуць знаёміцца з літаратурнымі здабыткамі сучасных пісьменнікаў Уздзеншчыны.

**Галіна НІЧЫПАРОВІЧ**

# Жыццё як спакуса




Водар Севіллі, запальнае фламэнка, знакамітая карыда, неўтаймоўныя характары, ракавыя ўчынкі і сапраўдныя жарсці — Вялікі тэатр Беларусі прадставіў абноўленую оперу «Кармэн» Жоржа Бізэ.

Пачынаючы з прэм'еры на сцэне парыжскага тэатра «Опера комік» у 1875 годзе і да нашых дзён гэтую оперу ахутвае магічны шлейф легенд. Без сумневу, «Кармэн» — самая знакамітая французская опера. Мелодыі з яе знаёмыя нават таму, хто далёкі ад сету класічнай музыкі. З мабільных тэлефонаў гучаць маршы, куплеты тарэадора, а блізкі асаблівага крою даўно называюць проста — «а ля Кармэн». Вобраз галоўнай гераіні-цыганкі, якія прыйшоў у свет у XIX стагоддзі з-пад пяра навеліста Праспэра Мэрымэ, палохаў, адштурхоўваў, але адначасова прыцягваў сваёй пачуццёвасцю і анархічнай свабодай, быў увасабленнем таямніцы, спакусы. Скандал вакол спектакля толькі распальваў цікавасць да яго гледачоў: у год прэм'еры «Кармэн» вытрымала сорак пяць спектакляў. Праз паўгода пасля парыжскай прэм'еры опера была пастаўлена ў Вене, а затым і ў іншых гарадах. Стаўленне да галоўнай гераіні, а разам з ёй і да оперы, мянялася.

У 1933 годзе менавіта з пастаноўкі «Кармэн» з легендарнай Ларысай Александроўскай у галоўнай ролі пачалася гісторыя Беларускага тэатра оперы і балета. Папулярнасць спектакля ашаламляла: ён ішоў ледзь не кожны вечар. Восьмую ў гісторыі тэатра сцэнічную версію падрыхтавалі: дырыжор-пастаноўшчык — уладальнік медаля Францыска Скарыны Андрэй Галанаў, рэжысёр-пастаноўшчык Галіна Галкоўская, мастак-пастаноўшчык Ганна Контэк (Фінляндыя), хормайстар-пастаноўшчык народная артыстка Беларусі Ніна Ламановіч, балетмайстры-пастаноўшчыкі заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Юлія Дзятко, народны артыст Беларусі Канстанцін Кузняцоў, Алена Аліпчанка (нумары фламэнка), мастак па святле Людміла Кунаш.

— Жорж Бізэ задумаў свой твор для тэатра «Опера комік», але ў выніку атрымалася опера, якая і па форме, і па змесце не ўпісвалася ў жанр камічнай, — адзначыў дырыжор-пастаноўшчык Андрэй Галанаў. — Канфлікт чаканняў публікі прывёў да таго, што твор быў не адразу ацэнены і нават прыгажосць музыкі не выратавала ад правалу. Поспех прыйшоў, калі Эрнэст Гіро, блізкі сябра і паплечнік Ж. Бізэ, зрабіў новую рэдакцыю, замяніўшы дыялогі музычнымі рэчытатывамі, наблізіўшы твор да класічнага выканання оперы. Некаторыя лічаць, што любая опера адбылася, калі ў ёй ёсць хаця б адна сапраўдная арыя, якая з часам стане вядомай. А тут цэлы набор «оперных хітоў»!

Кожны раз, звяртаючыся да гэтай партытуры, знаходзіш новыя фарбы, новыя акцэнты. Зразумела, што «Кармэн» — адна з самых папулярных у свеце. Можна шмат казаць пра тое, як прыцягвае музыка, як хочацца суперажываць галоўным героям, але — ці мала такіх опер? Чамусьці яны не такія папулярныя, як «Кармэн». Ёсць творы, якія вабяць усё новыя пакаленні выканаўцаў, пастаноўшчыкаў. Гэта магія шэдэўраў. І «Кармэн» — з іх ліку.

— Вобраз Кармэн неверагодна прыцягальны. Яна ганарлівая, самадастатковая асоба, але мяне як жанчыну адштурхоўваюць яе легкадумнасць, імкненне да бязмежнай свабоды, што патрабуе ахвяр, — падзялілася рэжысёр-пастаноўшчык оперы Галіна Галкоўская. — Кармэн кажа: «Я сама сабе і бог і д'ябал». Гэта значыць, яна часта парушае маральныя законы, якія з'яўляюцца асновай для фарміравання асобы. Было цяжка, таму што я павінна была апраўдаць яе, а ўсе мае сімпатыі на баку Хазэ. Таму ўсё, што я распавядаю ў спектаклі — не шлях жыцця Кармэн, а шлях яе смерці. Жорж Бізэ стварыў гісторыю жанчыны, якая, не падазраючы, што здольная на сапраўднае пачуццё, трапляе ў пастку кахання. І менавіта ўнутраная драма Кармэн, якую яна старанна хавае, — рухавік дзеяння ў оперы. Прыхільнасць да Хазэ з аднаго боку і сапраўдная захопленасць тарэадорам — з другога вызначаюць шлях яе гібелі. Ствараючы спектакль, для мяне было надзвычай важным знайсці глыбінныя пункты, якія дазволяць спачуваць свабодалюбнай Кармэн, — нюансы, дзякуючы якім глядач убачыў бы ў ёй жанчыну, што вырашае лёсавызначальнае пытанне: лепш загінуць, чым страціць шанс па-сапраўднаму любіць і застацца свабоднай. Невыпадкова вобраз спектакля як бесперапыннай карыды ўвасабляе галоўную гераіню — Кармэн. Карыда ў гэтым спектаклі выглядае як прынцып узаемаадносін.

«Кармэн», якой наш тэатр адкрыўся больш як 80 гадоў таму, безумоўна, знакавая опера. Яна мае не толькі багатую гісторыю пастановак. Гэты спектакль — восьмы па ліку, і мне хацелася б прысвяціць яго ўсім вялікім майстрам Вялікага тэатра Беларусі.

**Таццяна ШЫМУК**

# Летнія вакацыі




*«У Суздалі летам». 2011 г.*

Арт-кафэ Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі запрашае на персанальную выстаўку Васіля Пешкуна, дзе прадстаўлена каля 20 жывапісных твораў.

«Летнія вакацыі» — у гэтай простай назве хаваецца шмат сэнсаў — дзіцячых фантазій і яркіх уражанняў, разнастайных перажыванняў і захапляльных прыгод.

У Васіля Пешкуна няма нелюбімай пары года, аднак лета для жывапісца, як і для большасці з нас, — час асаблівых пачуццяў, магчымасць адпачыць, набрацца сіл і новых уражанняў. Жыццёвая моц, энергія, выразная пластычная мова — адметныя асаблівасці палотнаў мастака, што адлюстроўваюць яго намаганне спасцігнуць глыбінную сувязь прыроды і чалавека.

На выстаўцы экспануюцца эмацыянальна насычаныя, маляўнічыя пейзажы і нацюрморты. Яны ствараюць атмасферу самых пазітыўных адчуванняў, якія дорыць нам адпачынак на ўлонні прыроды.

Васіль Пяшкун нарадзіўся ў 1978 годзе ў Гомелі. Скончыў Гомельскае мастацкае вучылішча (1999) і Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў (2005). Стыпендыят спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Удзельнік шматлікіх рэспубліканскіх і міжнародных выставак. У 2008 годзе ўзнагароджаны медалём «Талент і прызванне» Сусветнага дабрачыннага альянсу «Міратворац». Работы мастака знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Музеі сучаснага рускага мастацтва ў Джэрсі-Сіці (ЗША) і іншых, а таксама ў прыватных калекцыях у Беларусі, Расіі, ЗША, Ізраілі, Японіі, Італіі, Францыі.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ

Рэдакцыйная калегія:
Анатоль Акушэвіч, Лілія Ананіч, Алесь Бадак, Дзяніс Барсукоў, Віктар Гардзей, Уладзімір Гніламёдаў, Вольга Дадзіёмава, Уладзімір Дуктаў, Анатоль Казлоў, Алесь Карлюкевіч, Анатоль Крэйдзіч, Віктар Кураш, Алесь Марціновіч, Мікалай Чаргінец, Іван Чарота, Іван Штэйнер

Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар: Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 18.06.2015 у 11.00

Ум. друк.11 арк. 3,72

Наклад — 2285.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1476 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.

© Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2015
© ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», 2015
© Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»», 2015